
Ганна Шарэнда ➔12

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вольга Суарэс ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3187) Год LXII | Беласток, 11 чэрвеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# ФЭСТ на ФЭСТ

**Ужо трыццаць другі раз прагучала беларуская песня ў парку Плянты ў рамках Свята беларускай культуры, прыцягваючы тлумы аматараў музыкі і традыцыйнага мастацтва. Фэст традыцыйна арганізуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якому ўжо за 60 гадоў. Сярод гледачоў і выступоўцаў — сярод шаноўных шматгадовых аматараў беларушчыны — таксама моладзь і дзеці, што асабліва радуе. Фэст адбыўся пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока.**


Фота Міры ЛУКШЫ

На сцэне, усталяванай перад фантанамі ў парку Плянты, выступіла дваццаць шэсць груп з усёй беларускай Беласточчыны (сярод іншага з Беластока, Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Сямятыч, Козлік, Студзівод ці Гарадка) і пераможцы школьнага конкурсу «Беларуская песня». Як кожны год выступілі госці з Беларусі, у гэты раз — народная група «Церніца» з Мінска.

У імпрэзах БГКТ (фестывалях, фэстах і канцэртах) у агульнай складанасці прымае ўдзел больш чым шэсцьдзясят пявучых аматарскіх калектываў. Гэта ў асноўным групы, якія працуюць дзесяцігоддзі, са шматпакаленнай традыцыяй. Але з кожным новым годам узнікаюць новыя гурты, таксама такія, якія ў свой рэпертуар уводзяць беларускую песню, напрыклад, «Немаральная прапанова», якая была сёлетнім пераможцам сярод выканаўцаў эстраднай песні на Фестывалі беларускай песні. З кожным годам сталеюць спевакі, якія нядаўна прэзентаваліся на аглядах дзіцячай песні, як Марыся Савіцкая. Яе ў родную песню ўводзіла Анна Бабік (вядучая фэст), якая з радасцю прыгадала таксама свой шлях да роднай песні разам са «Світанкам» — калектывам настаўніц з дзіцячага садка. Так што з надзеяй слухаем песні гайнаўскіх «Лемонкаў», і Юлькі Алексяюк, і Олі Сцепанюк з беларускага садка № 14 у Беластоку і ўсяго калектыву «Вясёлка» стуль, і разгаўляемся душою, бачыўшы танцы «Падляшскага вянка», які ў гэтым годзе распачаў Свята беларускай культуры. Дзіцячы танцавальны ансамбль «Падляшскі вянок» дзейнічае ў Беластоку пры Згуртаванні бацькоў дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АББА». Старшыня БГКТ Янка Сычэўскі адзначыў: «З танцам у нас у апошні час не занадта добра, але, гледзячы на дзіцячыя калектывы, асабліва на той, які працуе пры Асацыяцыі «АББА», і ў гэтай галіне будучыня беларускай культуры бачыцца перспектыўна». Старшыня згуртавання «АББА» Кацярына Паўлоўская дадала: «У групе ў нас працуе трыццаць дзяцей з Беластока і яго ваколіц. Перш за ўсё дзеці вучацца ў Беластоку беларускай мове ў Пачатковай школе № 4. Навучанне танца з'яўляецца дадатковай формай навучання беларускай мовы і культуры. Танцы ствараюць яшчэ магчымасць пазнаць каштоўнасці традыцыі, ідэнтычнасці і вывучыць мову іначай, чым на ўроках, азнаёміцца з культурай у шырокім сэнсе. Харэаграфія спасылаецца на традыцыйныя беларускія танцы і на новую беларускую музыку».

Старшыня БГКТ Янка Сычэўскі мусіў прызнацца:

— Беларуская культура ў Польшчы жыве таму, што не паддаецца якім-небудзь дыскрымінацыям, недаацэньванню. На жаль, без міністэрскай падтрымкі нашы мерапрыемствы мы не маглі б праводзіць, паколькі іншыя крыніцы фінансавання, у асноўным мясцовыя самаўрады, з'яўляюцца ўбогімі. Такім чынам, калі б мы толькі з іх дапамогай хацелі арганізаваць мерапрыемствы, сімвалічнае фінансаванне самаўрадамі было б недастатковым.

Трэба, аднак, адзначыць, што дзейнасць амаль шасцідзесяці калектываў падтрымліваюць самаўрады на месцы — гарадскія і гмінныя, напрыклад, Гайнаўскі дом культуры (калектыў «Лемонкі», Малое ГДК, хор «Рэха пушчы»), Гарадоцкі цэнтр культуры («Расспяваны Гарадок», «Хутар», «Прымакі» і іншыя калектывы), Бельскі дом культуры («Васілёчкі», «Куранты»), Музей малой айчыны ў Студзіводах («Жэмерва») і меншыя асяродкі, такія як Нараўка ці Рыбалы.

Прагучалі народныя і эстрадныя песні ў выкананні маладых, пажылых і вечна маладых беларусаў Падляшша, без якіх немагчыма сабе ўявіць беларускую сямейную забаву ці застолле. А за сталамі сядзелі майстры слова і рук, таксама суседзі з Гродна. Былі таксама музычныя выданні, якія ўсё ж цікавілі больш, чым кнігі. А сярод мастакоў слова сядзеў наш мафусаіл сярод пісьменнікаў Віктар Швед, да якога станавілася чарга перш за ўсё з віншаваннямі чытачоў, таксама часам ужо пасівелых, для якіх ён быў часта першым жывым паэтам, і з успамінаннем таго, што раньш было. А кніг і аўтарскіх сустрэч былі тысячы. А цяпер кнігу з аўтографам набывалі лічаныя асобы, якія маюць у хаце цэлыя калекцыі беларускіх тутэйшых выданняў. Або куплялі кнігу з аўтографам для маленькага ўнука, як Андрэй Пятэльскі для праўтарадовага Актавія. «Так, бо неўзабаве можа не будзе нагоды спаткацца чытачу з жывым аўтарам» — горка ўсміхнуўся 92-гадовы паэт.

Фота Міры ЛУКШЫ


Фота Наталі ШВЕД

Але былі такія чытачы, якія першы раз адважыліся падысці да паэтаў і першы раз прамовіць па-беларуску, на мове якую чулі ад бабулі. Студэнт першага курса лекарскага факультэта Медыцынскага ўніверсітэта ў Беластоку Караль Радыванюк, хлопец з Мазур, бацькі якога ўжо не аказваюцца на роднай мове, стаў яе вывучаць з «Нівы» і «Нашай нівы», і загаварыў так як яго бабуля Станіслава Тышкевіч з Сакольшчыны.

— Беларуская культура ў той частцы, у якой адбываюцца таксама праекты, рэалізаваныя БГКТ, фінансава маецца слабенька. Яшчэ раз паўтару, — адзначыў старшыня БГКТ Янка Сычэўскі, — Міністэрства УСіА, калі хоча, каб добра выконваць свае абавязацельствы ў адносінах да меншасцей, павінна ахопліваць іх мецэнатам, як гэта было гадамі таму, калі меншасцямі клапацілася Міністэрства культуры і мастацтва. Мела яно для падзелу на культуру ўсіх меншасцей 5,9 млн. злотых. У цяперашні час Міністэрства УСіА мае 16 мільёнаў злотых. З бягучых планаў, якія БГКТ арганізавала, МУСіА абарвала чатыры вельмі значныя праекты. І няма ніякай гаворкі з імі, няма і ўсё. Мы адчуваем гэта як відавочную дыскрымінацыю.

Люба Гаўрылюк з Козлікаў, з «Рэчанькі», для якой ні грошы ў галаве, ні гэтак званы «вольны час», адно роднае слова і песня:

— Каторы рок? Як усё гэта наша беларускае пачалося, я ўсё спяваю. Уявіце сабе, што ў 2018 годзе буду адзначаць 60 гадоў творчай працы. Хто столькі не жыве, як я спяваю! І мае дзяўчаты стараюцца ўсімі сіламі. Ну як жа ж не спяваць, калі душа радуецца. Вось я прыйшла, можна сесці. А я не магу сесці, бо такія песні, такая музыка — ногі самі хочуць гуляць. Бачыце, добра, што наша не загіне, бо дзеці ёсць. Бо тыя, што на могілках, нам ужо ніц не перакажуць. Мы мусім. І будзе працяг.

Беларускае свята працягвалася тры з паловай гадзіны.

**Міра ЛУКША**





# Грошы і кантроль

Вы чулі, у Беларусь заманьваюць замежных турыстаў! Сенсацыяй гэту навіну назваць можа і занадта, але нешта сенсацыйнае ў гэтым ёсць. Неяк не ўпісваюцца падобныя дзеянні ў характар і імідж беларускай улады. Рэжымы падобнага тыпу заўсёды імкнуцца да самаізаляцыі. І чым менш замежнікаў, тым лепш, бо кожны замежны госць можа разглядацца мінімум як носьбіт чужароднай ідэалогіі свабоды. А тут жа кожны мусіць ведаць сваё месца ў складанай іерархіі, дзе матэрыяльныя каштоўнасці не зарабляюцца, а размяркоўваюцца.

Дык вось пра гэтыя матэрыяльныя каштоўнасці. Хіба што няма ўжо чаго размяркоўваць, калі спадзяванні папаўнення дзяржаўнай скарбонкі перакінуліся на замежных турыстаў. Не на свой бізнес, не на беларускіх працавітых грамадзян, і нават не на замежных інвестараў, а на замежных турыстаў. З інвестыцыямі то ўсё зразумела. Каб яны пайшлі, трэба каб была свабода ў бізнесе. А эканамічнай свабоды без свабоды палітычнай не бывае. Таму не толькі замежных інвестыцый, але і развіцця ўласнага бізнесу чакаць не прыходзіцца. Дзяржаўныя прадпрыемствы паказалі сваю „эфектыўнасць" яшчэ пры СССР. Я ўжо не кажу пра калгасную сельскую гаспадарку. А тут яшчэ паслухмяныя і рахманыя беларусы не захацелі плаціць за дармаедства. У такой сітуацый і марсіян запросіш. Абы грошы.

Але марсіян яшчэ не знайшлі нават касмічна прасунутыя амерыканцы, а вось багатыя замежнікі любяць падарожнічаць. І нічога ганебнага няма ў тым, каб іх заманіць да нас. Так робяць усе, хто толькі можа. Нават багатыя краіны заманьваюць да сябе турыстаў, бо турызм не апошняя надзея папаўнення дзяржаўнага бюджэту, хоць і не першая. Першая, як не круці, гэта ўласныя грамадзяне. І яшчэ зусім нядаўна яны, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, і былі тымі самымі замежнымі турыстамі, якія папаўнялі дзяржаўную скарбонку не горш чужаземцаў.

Вось адзін прыклад з учарашняга мінулага. Працавітыя і руплівыя беларусы зусім нядаўна ганялі машыны з-за мяжы і плацілі ў казну славутую „растаможку". А што заставалася, ішло таксама дзяржаве. Куплялі будматэрыялы, каб паставіць хату для сям'і, куплялі нешта ў хату, куплялі хлеб, цыгарэты, гарэлку, закуску і за ўсё плацілі. І з усяго гэтага грашовага абароту даволі вялікі кавалак ішоў у дзяржаву. І падаткі на дабаўленую вартасць, і акцызы, і ўсё астатняе. Але гэтая цэлая галіна эканомікі, купля і продаж старых машын, якая ў кожнай краіне не менш важная, чым замежны турызм, была вырвана з коранем сваёй жа дзяржавай.

І гэта толькі адзін прыклад, калі людзі, якія папаўнялі бюджэт, самі засталіся без сродкаў на існаванне. Дык чаму ж гэты клас свабодных бізнесоўцаў зараз знішчаны? Адказ закладзены ў самым пытанні. Таму, што яны свабодныя.

Але ці змогуць усіх гэтых людзей замяніць замежныя турысты? Турыст, ён у першую чаргу пакідае грошы ў галіне адпачынку і забаў. Некалі, у дзевяностыя і нулявыя гады тых замежнікаў было ў нас багата. Іх прывабліваілі нашы нізкія цэны, бо больш нічога не было ў нас такога, чаго не было ў іх. З тых часоў мала што змянілася, акрамя цэн. І памяняліся тыя цэны не на карысць турыстаў. Дык чаму хтосьці мяркуе, што замежнікі сюды кінуцца масава?

А вось свае людзі тут мусяць жыць. І яшчэ дзесяць год таму ў выходны дзень у беларускіх барах ды рэстаранах, куды зараз заклікаем замежных турыстаў, месца не магчыма было знайсці нават у дзённы час. А на святы трэба было заказваць за некалькі месяцаў. Зараз свабодных месцаў дастаткова. Дык можа найперш трэба задумацца пра тое, чаму беларусы не могуць сабе дазволіць такое жыццё як замежныя турысты? Чаму яны не маюць грошай, каб папаўняць бюджэт краіны? Турыст гэта добра. Але гэта толькі дадатак да сваіх, а не замена іх.

Але ўлада так не думае. Важным, відаць, ёсць не тое, каб былі ў беларусаў грошы, якімі папоўніцца бюджэт. Галоўнае, відаць, усё ж магчымасць дзяржавы кантраляваць кожны рубель у кішэні беларуса. А грошы будзем шукаць па-свойму. Прыдумваць новыя падаткі, павышаць штрафы... Ну і за мяжой таксама... Браць крэдыты, пакуль даюць, запрашаць турыстаў, калі прыедуць...

**Віктар САЗОНАЎ**



# Прысутнасць чалавека

У тэлевізійнай рэкламе пральнага парашку ўнушальны голас дыктара пераконвае мяне, што я абавязкова павінен паспрабаваць (значыць, купіць) найноўшы прадукт хімічнай прамысловасці пры ўмове інтэлектуальнай формулы. Я думаў, што толькі сысуны, млекакормячыя, уключаючы чалавека, маніфестуюць індывідуальны інтэлект, а тут вось сюрпрыз — нават пральны парашок для мыцця брудных портак можа быць разумны. Але наколькі? Ці ўзровень яго інтэлектуальнай спраўнасці супастаўны з інтэлектуальным узроўнем аднаго дзядзькі з высокім рэйтынгам у цяперашнім урадзе, які спустошае Белавежскую пушчу з упартасцю бяздумнага жука караеда — з якім нібыта (інтэлектуальна) змагаецца? Ці яго інтэлект дастаткова высокі, каб меў ён магчымасць падаць заяўку на членства ў Менсу? Менса — міжнародная асацыяцыя разумнікаў, якая яднае два працэнты людзей з найвышэйшым каэфіцыентам інтэлекту з усяго чалавецтва. У сапраўдных ліках, гэта недзе 1,4 млн. усяго людства — вельмі мала, як на 7,5 мільярднае насельніцтва. Ці вышэйзгаданы джэнтльмен са званнем прафесара мае права быць сярод членаў Менсы? Ну а калі яго IQ супастаўны з інтэлектам пральнага парашку? І ці ў яго ёсць душа?

Дэкарт змяшчаў чалавечую душу ў шышкавіднай залозе. Пушча шышкавіднай залозы не мае, але, несумненна, мае душу. Цікава, у якім хаваецца яна гадавальніку? Чалавечая шышкавідная залоза і тымус (grasica) з узростам цела занікаюць. Не знаходзячы шышкавіднай залозы ў мозгу памерлых (у дні Дэкарта неахвотна праводзілі рассяканне трупаў дзяцей), вучоны прыйшоў да лагічнай высновы, што ў ёй знаходзілася душа. Мёртвы не мае шышкавіднай залозы, а гэта азначае, што няма ў яго душы! А што вівісекцыя на пушчы мае даказаць? Што ўжо даўно яна памерла, таму што дрывасекі не знаходзяць у ёй душы, адно дурнога караеда?

Я думаю, што кожны чалавек пакінуты адным у такой сітуацыі, па яго ўласным меркаванні канчатковай, мае тэндэнцыю да аўтаманіпуляцыі. Інакш кажучы, заўсёды знойдзе рацыянальнае абгрунтаванне сваіх дзеянняў. Ваенныя злачынцы ці, зусім нядаўна ісламскія тэрарысты з'яўляюцца гэтаму прыкладам. Толькі адрознівае іх узровень аўтаманіпуляцыйнай вытанчанасці і маральнага супраціву (асноўныя каштоўнасці, прынцыпы, пачуццё гонару і ўнутранага парадку). Але гэтыя, такія важныя каштоўнасці, якія я ўзяў у дужкі, быццам бы пад дзеяннем гідраўлічнага прэса, тым больш выраўноўваюць свае канцэптуальныя абрысы, чым мацнейшы ціск таксічнага асяроддзя, з якім яны ідэнтыфікуюцца. Гэты ціск гэта залежнасці, у якія чалавек па сваім жаданні або не, заблытваецца. Абмінаючы яркія прыклады ідэалагічных ці філасофскіх залежнасцей, прывяду тут — можа не злачынныя, хаця не менш шкодныя — партыйныя ці карпаратыўныя залежнасці. У імя партыйнай ці карпаратыўнай салідарнасці выносяць інтэлігентнасць супольнасці над інтэлігентнасць асобы. Я не веру, што асоба прафесара Шышкі мае менталітэт падобны да розуму караеда. Аднак, заблытваючыся ў партыйныя (і кампанейскія) залежнасці асяроддзя, мусіць адпавядаць узроўню калектыўнага інтэлекту ПіСаўскіх караедаў.

А Пушча — ці ў Пушчы ёсць душа? З-за гэтага пытання шпацыр над Лясняўку, дзе пакінутыя бабровыя жарэмі і сярод лясныя, шырока разлітыя воды, акружаныя нейкай жоўтай квеценню з васковымі лістамі. Шмат'яруснасць уражанняў і іх адначасовасць: нізка — пуканне гнільных газаў з балоцістага дна заток і касы бег па іх люстэрку прудавых вадамерак. Вышэй белыя капусніцы і свіцязянкі — бліскучыя красоткі, бязгучныя мошкі, што снуюцца спіраллю над высмаглымі травамі і груба гудучыя чмялі. Сярод крывых галін алешыны спевы, залёты, гарцы птушак, а яшчэ вышэй ад вяршынь выгінаючыхся з ветрам, няспынны шум Пушчы. Усё гэта ў адначасовым успрыманні, раптоўна. Не насыцішся гэтым у розуме, не нацешышся супакоем пралітай вады, меланхоліяй упаўшых дрэў ні іх узнёслым саборам выварατаў. Не ўбярэш пахаў алешын, да кален пагружаных у ваду, а над ёю пранізлівы крык жорава, спалоханага прысутнасцю чалавека. Хацелася б больш і больш, і больш... Застацца там назаўсёды.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Пратрымаемся?

Прыгажосць свету, якая ў веснавым разгары здаецца быць нашым зямным раем, у рэальнасці прайграе з акружаючымі нас канфліктамі, трагедыямі і траўмамі. Проста з неверагоднай хуткасцю растуць піраміды няшчасцяў, якія, разваліўшыся, нясуць нам неўяўляльнае гора і бяду. Тыя, хто асабіста, не дай Божа, паверылі ў фінансавыя піраміды, ведаюць дакладна, якой бяды можна ад гэтага спадзявацца. Ненасытнасць спекулявання на чалавечнай наіўнасці вядомая здаўна, але зараз гэтая з'ява закладзена таксама ва ўстановах, якія павінны бараніць людзей ад такога роду здарэнняў. Сістэма міжнароднага эканамічнага «ладу» і банкавай сістэмы — адна вялікая выдзіманка, якая не абапіраецца на рэальных грашах. Зараз нават многія дзяржавы з'яўляюцца заложнікамі гэтай сітуацыі, не гаварыўшы пра мільёны звычайных людзей. Кожная спроба дыскусіі пра больш справядлівае пераразмеркаванне сродкаў у сучасным свеце канчаецца мемарандумамі ды паказамі слайдаў з эканамічнымі слупкамі на чарговых канферэнцыях. А вышэй усяго выбіваецца ў неба піраміда-хмарачос медыйнай маніпуляцыі, якая мае на мэце менавіта навязванне нам спосабу думання ўсіх палітычных і гаспадарчых ашуканцаў. А ашуканцы такога ўзроўню гэта халаднакроўныя і цынічныя гульцы, для якіх людзі і чалавецтва павінны быць толькі пешкамі ў іхніх руках. Гэта менавіта дзякуючы і такой зброі ў нашых мазгах павінны занікаць звычайныя шэрыя клеткі думання, а на іх месца ўкінуць нам сечку і палову. Гэта таксама адзін з самых зараз хуткіх спосабаў, каб — як гаворыцца ў біблейскай традыцыі — набыла рэальнасць сітуацыя, калі брат ідзе на брата, а народы паўстаюць супраць сябе. І калі праз такое думанне зараз зямля і свет сплываюць крывёю і слязамі соцень мільёнаў людзей, то згаданыя гульцы бясконца вядуць паміж сабою пусты дыялог і такія ж перамовы дзеля «міру і будучыні». Я ўжо сам не разбіраюся ў гэтых самітах, пяцёрках, сямёрках ці іншых сустрэчах саўдзельнікаў сённяшняй дэстабілізацыі, якая, відаць, мае на мэце новы геапалітычны і гаспадарчы перападзел свету. Фарысейства дзеля ўлады. Чалавечая ахвяра, крыўда і боль ваеннай рэальнасці не цікавыя нікому. Зараз складаецца такое адчуванне, што менавіта такая сітуацыя так можа ўгнявіць Усявышняга, што вось-вось, калі не апамятаецца чалавецтва, то гневам Божым адпусціць ён на зямлю чатырох апакаліптычных ездакоў, ад якіх застанецца толькі адшукоўваць чалавечы след. Ужо не нам, але іншапланецянам.

Даволі песімістычнае, праўда? Але сам я інтуітыўна адчуваю нейкую такую ўнутраную напружанасць вакол таго, за чым наглядаю, што адбываецца зараз у Еўропе і свеце. Адтуль, відаць, у мяне з'явілася пачуццё песімізму наконт еўрапейскай будучыні. Яе бяспечнасць стаіць пад пытаннем. Дай Божа памыліцца, што гэта толькі мае публіцыстычныя разважанні. Але няўпэўненасць пасялілася. Асабліва, калі напярэдадні Святой Тройцы — аднаго з нашых найбольшых святаў і апірышчаў хрысціянскай цывілізацыі — прайшлі чарговыя ісламскія тэракты і іншыя здарэнні з ахвярамі сярод людзей. Сашэсце Святога Духа было і ёсць тым момантам у нашым зямным жыцці, які непасрэдна і адназначна акрэслівае наша асабістае прызнанне ў трываласці і зразуменні нашай веры Хрыстовай. Таму, нягледзячы на розныя ўнутраныя хрысціянска-гістарычныя падзелы, менавіта Тройца з'яўляецца яднальнай для ўсіх хрысціянскіх традыцый: праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай. Нават на Беласточчыне маем пратэстанцкі касцёл пяцідзясятнікаў, які сваю адметнасць і догмы веры выбудоўвае ад гэтага свята. Так як і Вялікдзень, так і Тройцу ў гэтым годзе ўсе хрысціяне святкавалі разам. У Польшчы гэта выходны дзень на дзяржаўным узроўні. Па ўсёй краіне адбывалася шмат мерапрыемстваў адпачынковага і забаўляльнага характару. Але менавіта здаецца, каб з надзеяй і ўпэўненасцю глядзець у будучыню, то малітвы за тое, каб ласка сашэсця Святога Духа не пакідала чалавецтва, павінны былі прагучаць і ад нас.

**Яўген ВАПА**

# МАЛАДЫЯ ТАЛЕНТЫ
## ў Гайнаўскім доме культуры

**Многа прац дашкольнікаў і вучняў пачатковых і гімназічных школ з Гайнаўскага павета, Бельска-Падляшскага і іншых мясцовасцей можна пабачыць на выставе XIV Агульнапольскай вясны маладых талентаў «Прэзентацыі-2017», якая знаходзіцца ў галерэйнай зале і на вялікім калідоры Гайнаўскага дома культуры. Сёлета 527 удзельнікаў з розных ваяводстваў Польшчы даслала на конкурс пад дэвізам «Мой свет тут і цяпер» 717 прац, з якіх ліку 164 работы (жывапіс, рысункі і перш за ўсё работы выкананыя мяшанымі тэхнікамі) былі адабраны на конкурсную экспазіцыю.**



Пераможцы XIV Агульнапольскай вясны маладых талентаў «Прэзентацыі 2017», іх апекуны, арганізатары конкурсу і члены журы

На падвядзенне вынікаў конкурсу прыбылі перш за ўсё маладыя мастакі і іх апекуны з Беласточчыны.

— Спачатку я вучылася мастацтву ў сваёй школе. Гэтаму прадмету вучыў мяне Адам Сцепанюк. Пасля стала займацца ў Пасялковым доме культуры ў Бельску-Падляшскім, дзе многаму навучыла мяне Аліна Пахвіцэвіч, — сказала Аляксандра Валосік з бельскай «тройкі», аўтарка карціны з балерынай перад выступам, якая ва ўзнагароду атрымала статуэтку «Талент-2017».

— Я рада, што мая праца атрымала вылучэнне. Я многа гадоў займалася ў Бельскім доме культуры з інструктаркай Марыяй Бабулевіч, а зараз апякуецца намі Шыман Амбражэвіч. Я ім удзячна за падрыхтоўку ў галіне мастацтве, — заявіла Аляксандра Зінкевіч з бельскай «тройкі», якая прыехала са сваёй школьнай сяброўкай Сарай Паўлоўскай, аўтаркай вылучанай на выставу працы.

— Я цешуся, што работы вучняў, якія займаюцца ў мастацкім гуртку ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе, былі ўзнагароджаны і вылучаны. У нас займаецца многа здольных дзетак з Дабрывады, Рэпчыч і іншых вёсак, а нават з-пад Нурца-Станцыі. Мы многа практыкуемся і сёння рэзультаты нашай работы бачны на экспазіцыі, — сказала апякунка з Чаромхі Тамара Кердалевіч. Яна сама — пераможца Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. Яе працы нядаўна паказваліся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва».

— Мы многаму навучыліся, займаючыся ў асяродку культуры ў Чаромсе са спадарыняй Тамарай Кердалевіч, — заявіла Вераніка Леська, якая атрымала персанальную ўзнагароду «Талент-2017».

Дзяўчаты Сара Ціханюк і Наталля Сідарук атрымалі калектыўную ўзнагароду «Талент-2017», якая ўвянчала іх шматгадовую працу ў мастацкім гуртку ў Чаромсе.

Падвядзенне вынікаў XIV Агульнапольскай вясны маладых талентаў «Прэзентацыі-2017» адбылося ў канцэртнай зале ГДК. Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч прывітаў сабраных і перш за ўсё высока ацаніў мастацкія працы дзетак і моладзі, якія журы конкурсу кваліфікавала на выставу. Намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка, а раней дырэктар Гайнаўскага дома культуры ўспамінаў пачаткі конкурсу для мясцовых дзетак і моладзі ў 2004 годзе, які з часам пераўтварыўся ў агульнапольскае мерапрыемства «Вясна маладых талентаў». Цяпер прымаюць у ім удзел сотні маладых асоб з розных рэгіёнаў Польшчы. Конкурсная камісія, якую складалі жывапісец Іаанна Косак, мастак Збігнеў Будзынскі, мастачка Анна Марта Світальска-Свіць і сакратар камісіі, старшы інструктар па справах мастацтва ГДК Зінаіда Якуць у чатырох узроставых катэгорыях прысудзіла персанальныя і калектыўныя ўзнагароды «Талент-2017» у выглядзе статуэткі з анёламі. Атрымалі іх 11 асоб і 5 груп мастакоў. Камісія прызначыла таксама 6 індывідуальных вылучэнняў і 2 групавыя, а працы 75 асоб атрымалі кваліфікацыю на выставу, што было ім таксама важнай узнагародай. Аднак, як паказалі рэзультаты сёлетняга конкурсу, ва ўсіх узроставых катэгорыях надалей пераможцамі становяцца ў вялікай ступені жыхары Гайнаўскага і Бельскага паветаў.

— Штогод бачым штораз новыя працы, даходзяць новыя творцы. Ідзіце сваёй дарогай і разгортвайце свой талент, — сказаў мастак Збігнеў Будзынскі.

Вынікі сёлетняга конкурсу падвяла Іаанна Косак:

— У гэтым годзе высокі мастацкі ўзровень прэзентаваных прац. Аднак я асаблівую ўвагу звяртаю на маладых асоб, якія вучацца мастацтву ў Чаромсе. На работах гэтых вучняў асабліва бачна індывідуальнасць маладых творцаў. На іншых працах відаць большае ўздзеянне апекуноў маладых асоб на іх спосаб паказвання акружаючага свету. Хаця сёлетняя тэма прац «Мой свет тут і цяпер», то калі дзеткі бачаць вакол фантастычны свет, гэта таксама правільна, бо яны так бачаць акружаючае іх асяроддзе.



Намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка ўручае Магдзе Куптэль з Гайнаўкі статуэтку з анёлам «Талент-2017»

Жывапісец Іаанна Косак нарадзілася ў Кракаве. У дзяцінстве прыязджала да сваёй любімай цёткі Сімоны Косак у Белавежскую пушчу. У дарослым жыцці Іаанна Косак пераехала на пастаяннае жыхарства ў леснічоўку, палажаную ў пушчы непадалёк ад Белавежы.



Узнагароджваюцца дашкольнікі з беларускага калектыву «Калебка» (за імі стаяць іх апекуны і члены журы)

Статуэткі конкурсу «Талент-2017», дыпломы і падарункі ўручылі ўзнагароджаным члены конкурснай камісіі і намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка.

Персанальную ўзнагароду атрымала Ганна Волчык з Самаўрадавага садка № 2 у Гайнаўцы, якая часта наведвае ГДК, бо займаецца тут у калектыве народных танцаў «Перапёлка» і Студыі песні ГДК. Караліна Сідарук з Комплексу школ у Кляшчэлях таксама атрымала статуэтку «Талент-2017». Магда Куптэль з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы займаецца ў мастацкай майстэрні Гайнаўскага белмузея пад наглядам Данеля Грамацкага.

— На сёлетнюю «Вясну маладых талентаў» я самастойна рыхтавала карціну з нацюрмортам і задаволена, што ўдалося здабыць статуэтку «Талент 2017», — сказала Магда Купталь, павіншаваць якую прыйшлі яе бацькі і сваячкі.

Анна Касідла з Гімназіі № 1 у Гайнаўцы за працу, выкананую пад наглядам Эміліі Кручкоўскай, атрымала статуэтку з анёлам «Талент-2017». Узнагароды і статуэткі атрымалі таксама творцы з-па-за нашага рэгіёна: Ігнацы Русецкі з Замбрава, Павел Алейнічак з Дабковіц, Агата Млечка з Рыбніка, Бальбіна Баран з Глогава-Малапольскага і Антоні Літэра з Рыбніка. Калектыўную ўзнагароду атрымаў беларускі калектыў «Калебка» з Самаўрадавага садка № 1 у Гайнаўцы. Апякуюцца ім Міраслава Нікančук і Ала Супрун, якія ў прадшколлі вучаць дзетак беларускай мове, мясцовай гісторыі і традыцыям.

— Нашы дзеткі здольныя. Апрача песень, танцаў і традыцыі мы вучым дашкольнікаў з беларускага калектыву «Калебка» мастацкім тэхнікам. Нашы дзеткі ўжо некалькі гадоў прымаюць удзел у конкурсе і штогод дабіваюцца поспехаў. Сёлета ўсе работы нашых пераможцаў прэзентуюцца ў адным месцы на конкурснай выставе, — сказала Міраслава Нікančук.

— Мы рады, што наша дачка Ганна займаецца ў калектыве «Калебка». Выступае яна ў калектыве, знаёміцца з нашымі народнымі танцамі і песнямі, удала займаецца мастацтвам, і здабыла калектыўны «Талент-2017», — заявілі Агнешка і Тамаш Ціханюкі

— Нашы вучні дабіваюцца поспехаў падчас розных конкурсаў, але толькі тут узнагароджваюцца групы маладых мастакоў і я рады, што ёсць такая катэгорыя ўзнагароджвання. Я задаволены, што нашы вучні цяпер здабылі калектыўную ўзнагароду «Талент-2017», — заявіў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі, які вучыць мастацтву ў Пачатковай школе № 2 у Бельску-Падляшскім.

Калектыўную ўзнагароду «Талент-2017» здабылі таксама групы вучняў з Пачатковай школы ў Дабковіцах і Моладзевага дома культуры ў Рыбніку. Сярод вылучаных індывідуальных маладых мастакоў былі жыхары нашага рэгіёна — Вікторыя Ткач з Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, Іаанна Ляўчук і Караліна Навіцкая — абедзве з Гайнаўкі. Калектыўныя вулучэнні атрымалі таксама групы з Гайнаўшчыны — дзеткі з Садка ў Дубічах-Царкоўных і Самаўрадавага садка № 3 у Гайнаўцы.

— Нашых дзетак маляваць і рысаваць вучаць Іаланта Валкавыцкая і Анета Трусевіч. Нашы малечы атрымалі калектыўнае вылучэнне. Аднак я перш за ўсё рада, што мой сын Міколка выканаў прыгожую працу, — сказала Рэната Корх.

Падвядзенне вынікаў конкурсу завяршылася пачастункам для сабраных.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Юрка БУЙНЮК

# Пісаць па-беларуску

Адзін з чытачоў «Нівы» пытае, чаму я ўспамінаю 90-я гады. А ўспамінаю так, як ён успамінае гады свайго дзяцінства з 60-х ці 70-х гадоў, бо маю што ўспамінаць. Менавіта сёлета ў траўні мінула 25 гадоў з таго часу, калі я ў 1992 годзе напісаў свой першы верш. Тады ў маёй вёсцы расцвіталі сады, а ў суседа насупраць маёй хаты была вялікая лаўка, на якой заўсёды сядзела пад дваццаць старых маіх аднавяскоўцаў. Каля лаўкі быў роў і на лаўку кідалі цень тры каштаны, якія раслі каля вуліцы. На лаўцы сядзелі старажылы з маёй вёскі і ўспаміналі то бежанства, то вайну, то размаўлялі проста пра жыццё. Туды часта хадзіла і мая бабуля. Там таксама сядзеў той час найстарэйшы чалавек Андрэй Калішук, дзякуючы якому паўстаў мой і Уладзіміра Сідарука артыкул пра бежанства. Андрэй Калішук меў вельмі добрую памяць і ўмеў расказваць як ніхто ў нашай вёсцы. Там таксама сядзеў мой другі сусед Яўхім і многа іншых людзей. Гэта была найбольшая лаўка ў цэлай нашай вёсцы. Гэта мяне натхніла напісаць вясною 1992 года верш пад загалоўкам «Мая вёска». Аднак верш быў апублікаваны ў 1997 годзе ў школьнай газетцы «Lawa», якая выдавалася ў Бельскім белліцэі. Часам успамінаю, як змянілася мая вёска. За гэты час памерлі людзі, а згаданай лаўкі даўно няма. У гэтым годзе ссеклі тры каштаны і наогул усе дрэвы з боку вуліцы, дзе стаяла лаўка. Там зараз будуецца дарожка для веласіпедаў. Большасць старажылаў памерла, а на іх месца старымі людзьмі сталі людзі ва ўзросце маіх бацькоў. Але яны не выходзяць на лаўкі, толькі сядзяць пры тэлевізарах. Здаецца, зараз кожны мае ў хаце інтэрнэт, спадарожнікавае тэлебачанне, аўтамашыну. Але ці гэта найважнейшае для душы чалавека?

Вяртаючыся да майго верша, прыгадваю, што калі ў 1996 годзе я пачаў вучыцца ў беларускім ліцэі і калі «Ніва» сарганізавала першы Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, то нас з Бельшчыны пісала пад 30 асоб і столькі ж з Гайнаўшчыны. Зараз усур'ёз літаратурай займаецца менш чымсьці пальцаў на адной руцэ прадстаўнікоў майго пакалення. Чаму так, цяжка сказаць. Можа тое, што сёння пішучы па-беларуску, трэба лічыцца з тым, што з гэтага няма ні грошай, ні славы. Але ў польскім асяроддзі таксама мала паэтаў з майго пакалення. Можа гэта інтэрнэт, электронныя масмедыі і наогул вобразная культура адцягвае сучасную моладзь ад кніг. Калісьці адзін літаратар з Беларусі сказаў, што літаратурай, а таксама і мастацтвам займаецца многа маладых людзей, з якіх малы працэнт у дарослым жыцці будзе гэтым займацца. Колькі ж дзетак у дзяцінстве прыгожа спявае, малюе ці выігрывае спартыўныя спаборніцтвы і мала хто з іх стане пазней прафесійным мастаком, музыкантам ці спартсменам.

А я ўспамінаю 90-я гады таму, што тады жылося цікавей. У Бельскім белліцэі ў 90-я гады вучылася многа таленавітых вучняў, якія пісалі вершы, прыгожа малявалі ці гралі ў беларускіх гуртах. Тады беларускасць была ў модзе і да гэтага заахвочвалі дзеячы беларускага руху, а зараз гэта нікому непатрэбнае. Калі я чытаў кнігу «Віры» першага галоўнага рэдактара «Нівы» Георгія Валкавыцкага, дык мне запаматалася, калі ў 80-я гады ў рэдакцыю «Нівы» прыехаў прадстаўнік лужыцкіх сербаў і пабачыў, як жыве наша беларускае асяроддзе дык з жалем сказаў, што сербы лужыцкія паміраюць. Так і мы паміраем, а ў асноўным памірае наша беларуская вёска на Беласточчыне — носьбіт беларускасці і тоеснасці нашага народа. Так, беларусы, так сказаць, вясковы народ таму, што і Купала, і Колас, і Мележ, і Быкаў і многа іншых пісьменнікаў гэта ўраджэнцы вёскі. Вясковае асяроддзе ставарае духоўны партрэт пісьменніка. Вёска маралізуе і натхняе, а цяжкая праца на вёсцы фармуе характар чалавека. Затое горад як сімвал сучаснасці, тэхнікі і прагрэсу разбурае ў нас душэўны стан. Гэта вельмі добра адлюстроўвае польскі фільм «Dzień świra», у якім галоўны герой — тып інтэлігента, якога грае Марк Конрад, шукае месца, каб пабыць самому, і яго не знаходзіць. Тое ж адбываецца з мільёнамі людзей у гарадах на цэлым свеце. Чалавеку ўсюды перашкаджае прысутнасць іншых людзей, а гэта не натхняе да творчасці. Толькі з душэўнай самоты нараджаецца літаратурнае слова — з душы і сэрца, галавы і думак, са зносін з самім сабою паўстае творчасць.



Фота з архіва «Нівы»

# Сенакос

Месяц чэрвень заўсёды мне асацыяваўся з пачаткам канікул. Тады канчаўся школьны год і да пачатку верасня было два месяцы канікул. Я, як і ўсе дзеці, чакаў гэтага часу. На канікулах можна было даўжэй паспаць, але неабавязкова, таму што летам на вёсцы было шмат занядкаў. Я вельмі любіў, калі ў чэрвені пачынаўся сенакос. Можа таму, што люблю пах свежага, сухога сена, у якога вельмі прыемны водар. Ужо другі пакос сена — атавы — не так пахне як першы. Траву бацька касіў касілкай і трактарам. Пасля, калі трава высахла на сонцы, на другі дзень зграбаў трактарнымі граблямі, а затым віламі і граблямі зграбалі ў копкі. Я любіў, калі мы капілі вечарам, бо можна было паглядзець захад сонца над Бараноўшчынай — лесам паміж Малінніка-мі і Шарнямі. На трэці дзень ехалі з возам і бралі фуру сена. Бацька заўсёды быў на возе, а мы з мамай падавалі віламі сена на воз. Пасля я падаваў бацьку рубэль — калоду на воз, які прывязвалі ланцугом з пераду воза, а ззаду вяроўкай. Калі наклалі фуру сена дык аграбалі граблямі і прывязвалі вяроўкай — прыпонам. Добра звязаная фура павінна выглядаць я каробка запалак. Тады яна не перавернецца па дарозе да клуні. А зараз ніхто не зграбае сена ў копкі, толькі збірае пры дапамозе прэс-падборшчыкаў. Калісьці вёска асацыявалася з каровамі. Зараз мала хто трымае кароў дык і сена непатрэбнае. Увогуле на вёсках мала засталося гаспадароў. Моладзь не горнецца гаспадарыць, бо ўсе сельскагаспадарчыя прадукты танныя. Каб можна было на гаспадарцы выжыць, дык трэба мець прынамсі 50 гектараў зямлі.

Юрка БУЙНЮК

# Прафілактыка і рашанне алкагольных праблем

Як гаворыцца — алкаголь для людзей, але таксама агульна вядома, што часта бывае горам празмерна яго спажываючым, а асабліва іх сем'ям. Прадаўцы алкаголю плацяць у гмінныя ўправы г.зв. „коркавыя" — аплаты за дазвол на продаж алкаголю, якія трапляюць у гмінную Праграму прафілактыкі і рашання алкагольных праблем.

Адкуль ёсць і будзе алкаголь — ёсць і будуць праблемы. У нашай краіне пад алкаголем гнуцца полкі ў крамах. Што цікавае — у Арлянскай гміне ў крамах амаль не відаць пакупнікоў, хаця алкагольныя напоі таннейшыя, чым бывала даўней. Пры камуне геэсаўская гаспода ў рынку была запоўнена людзьмі, асабліва з поўдня да часу яе закрыцця; ад некалькіх гадоў гаспода ўжо не працуе.

На тэрыторыі Арлянскай гміны алкаголь зараз можна купіць у трох прыватных крамах у Орлі і адным бары на акраіне мястэчка, у Малінніках, а ў Дыдулях толькі піва. Да нядаўна цягам двух гадоў дзейнічаў вечарамі бар побач аўтобуснага прыпынку ў Орлі. Уладальніца атрымала з Павятовай управы працы датацыю на сама менш двухгадовы свой бізнес, але, відаць, марны ён быў, бо адраклася.

У Орлі падхмеленых асоб амаль не відаць на вуліцах, аднак статыстыкі — так паліцыі, як і Камісіі па справах алкагольных праблем — не хлусяць. У Камісію ў 2016 годзе паступіла чатырнаццаць (у 2010 годзе дзевяць) пісьмовых заявак у справе скіравання на прымусовае лячэнне злоўжываючых алкаголем асоб і ўсчынаючых хатнія авантуры: дзевяць заявак ад сем'яў і пяць ад паліцыі.

У выніку разгляду Камісія накіравала пяць заявак у суд дзеля судовага рашэння пра прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Пяць іншых асоб падпісалі абавязацельствы, што абмяжоюць спажыванне алкаголю і адмовяцца ад насілля ў сем'ях. Адна асоба па сваёй волі рашылася на курс лячэння ад алкагалізму. Справы трох асоб разглядаюцца Камісіяй.

Прафілактычная дзейнасць інфармацыйнага і адукацыйнага характару:

- у жніўні 2016 года Камісія арганізавала „Навучанне асоб падаючых і прадаючых алкагольныя напоі";
- былі куплены інфармацыйныя матэрыялы „Як берагчы дзіця ад алкаголю і нікаціну", якія былі раздадзены на бацькоўскіх сходах у арлянскім Комплексе школ;
- Камісія сфінансавала тэатральную пастаноўку „Успаміны наркаманкі" ў выкананні тэатра мастацкага агенцтва „Янна" з Кельцаў, якую ў Комплексе школ глядзелі старэйшыя вучні, настаўнікі і частка бацькоў;
- Камісія дафінансавала два адукацыйна-гістарычныя паказы для вучняў малодшых класаў арлянскай школы з цыкла „Жывыя ўрокі гісторыі" п.з. „І ты можаш стаць рыцарам" ды „Сармацкія абычаі" ў выкананні мастацка-рэканструкцыйнай групы „Рэвіта" з Седльцаў;
- за сродкі Камісіі сфінасавана была купля ўзнагарод лаўрэатам школьных конкурсаў, прапагандуючых здаровы і пазбаўлены дрэнных звычак лад жыцця;
- 27 студзеня 2016 г. Камісія сарганізавала гмінную ёлку для дзяцей з сем'яў з матэрыяльнымі недахопамі ды з алкагольнымі праблемамі; удзельнічала сорак дзяцей і каля пятнаццаці бацькоў з тэрыторыі цэлай гміны.

Падмога дзеля рашання алкагольных праблем:

- дафінансавана было рэкрэацыйнае мерапрыемства пад адкрытым небам з нагоды Дня дзіцяці, якое наладзіў Гмінны асяродак культуры ў Орлі;
- Камісія дафінансавала паездку дзесяці дзецям (4200 зл.) на дзіцячы канікульны лагер у Рабку-Здруй, а таксама (6000 зл.) канікульную паездку дзяцей, ладжаную Брацтвам праваслаўнай моладзі ў Орлі. Тысячу злотаў прызначыла Камісія на пабыўку траіх удзельнікаў у навучальна-адпачынковым лагеры маладзевых пажарных каманд. На ўсіх выездах былі рэалізаваны прафілактычныя праграмы па супрацьдзеянні алкагалізму і наркаманіі.

У 2016 годзе не паступіла ніводная скарга на дзейнасць суб'ектаў гандлюючых алкаголем. На рэалізацыю задач Камісія запланавала 41 тысячу злотаў з аплат за продаж алкаголю, а расходавала няпоўныя 26 тысяч. Зараз паменшаў лік пунктаў продажу алкаголю і ў 2017 годзе да распараджэння Камісіі будзе каля 37 тысяч злотаў (разам з астаткам з 2016 года).

Алкаголь развесяляе, але п'ючы плаціш і здароўе... траціш.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# „Табе вучыцца трэба...”

**Размова з Вольгай СУАРЭС, дырыжорам ансамбля старарускага мастацтва спеву „Срэценне” царквы Нараджэння св. Яна Хрысціцеля з Мінска.**



**— У 1970-х гадах прэм'ер-міністрам Іспаніі быў Адольфа Суарэс. І ў Вас такое іспанскае прозвішча — адкуль яно ўзялося?**

— Гэта па мужу, ён калумбіец, Хуан Гільерма Суарэс Гансалес. Ён зараз з'яўляецца выдатным беларускім вучоным, ён фізік-тэарэтык, ён зараз працуе вядучым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце ядзерных праблем і з'яўляецца загадчыкам навуковай лабараторыі фундаментальных даследаванняў Інстытута ядзерных праблем БДУ. Ён прыехаў у Беларусь у 1989 годзе. Адзін з яго дзядзькоў — ён з мнагадзетнай сям'і — быў міністрам эканомікі Калумбіі. Ён тады штудзіраваў у нашым універсітэце, а я вучылася ў Музычнай акадэміі, мы пазнаёміліся. Ён паехаў дадому на адзін год і зразумеў, што без мяне яму ніяк, і без Беларусі яму таксама неяк самотна; і вось ён вырашыў вярнуцца сюды, „дадому”.

**— Прыгожая гісторыя. А як развіваліся Вашы прафесійныя справы?**

— Я дырыжор хору, царкоўнага, у мяне прафесійная адукацыя па гэтай галіне мастацтва. Я закончыла магістратуру, калі ў мяне было ўжо сямёра дзяцей, калі мне было 36 гадоў.

**— Сямёра дзяцей?! Гэтага па Вас не відаць...**

— Вось два старэйшыя сыны Серафім і Давід спяваюць у мяне ў ансамблі. Тэмай даследавання старых спеваў я цікаўлюся здаўна, але ў нас, у Беларусі, няма спецыялістаў, якія маглі б даваць мне парады па спецыфіцы выканання — як натацыя вызначае спеў. Дзеля зразумення гэтага я прайшла доўгі шлях. Пасля заканчэння кансерваторыі я прайшла стажыроўку на кафедры старажытнага пеўчага мастацтва ў санкт-пецярбургскай кансерваторыі. Але калі ў мяне было столькі дзяцей, то вядома, што я не магла працаваць у поўнай меры. Але ж калі майму старэйшаму сыну было пяць гадоў я заснавала такі маленькі дзіцячы калектыў, які называецца „Гудочнікі”. Мы спявалі па знаменнай аўтэнтычнай натацыі, вучыліся спяваць, спявалі літургіі ў храме і сын спяваў у гэтым ансамблі. А калі я закончыла магістратуру — мой муж бачыў, што мне вельмі патрэбна вучыцца, што я без гэтага дрэнна сябе адчуваю, а ў яго ж інтэлектуальны склад думак, і ён тады сказаў мне: „Або ты ідзеш у навуку, або ідзеш з хаты, каб я цябе не бачыў”. А я адказваю: „То як жа ж ты зразумееш, што табе трэба будзе рабіць, калі я там буду вучыцца?” А ён адказаў: „Можа і не надта зразумею, але я ведаю, што табе вучыцца трэба”. І так я ў 36 гадоў стала прадаўжаць навуку ў той галіне, якая мяне цікавіла.

**— У Вас зацікаўленасць музыкай, якая стваралася вельмі даўно...**

— У гэтым ансамблі, з якім я прыехала на Фестываль, мы спяваем песнапенні, якія выконваліся да сярэдзіны XVIII стагоддзя. Гэта спецыфіка калектыву, ён на даны момант адзіны ў Беларусі. У нас яшчэ ёсць ансамбль старабеларускага спеву, але яны выконваюць выключна беларускія песнапенні, а мы выконваем усе песнапенні Рускай праваслаўнай царквы, часткай якой з'яўляецца Беларуская царква. Выконваем мы і беларускія творы знаменнага распеву, а гэта агульна вельмі вялікі пласт. У час цяперашняга канцэрта мы прадставілі ўсе пеўчыя стылі, якія толькі былі, у тым і путныя распевы. Мы асвяцілі перыяд ранняга мнагагалосся, а ён вельмі разнародны, там не толькі знаменнае мнагагалоссе, там такое багацце, пра якое нават не ўсе ведаюць. Канцэрты мы строім у выглядзе такіх жа лекторыяў. Вось некалькі дзён да нашага сюды прыезду мы давалі вялікі сольны канцэрт на галоўнай плошчы Мінска і там мы спявалі выключна духоўную паэзію. І гэты канцэрт выглядаў як харавое дзеянне, значыць там былі ў нас і ліра, і гуслі, і XI стагоддзе, і XXI стагоддзе; людзі, якія ў нас спяваюць, пачынаюць пра гэта думаць, асэнсоўваць. У нас паяўляюцца апрацоўкі, якія робяць нашы пеўчыя; я лічу, што яны выдатныя і адрозніваюцца ад усіх іншых тым, што гэтыя людзі чуюць сутнасць гэтага распеву, яны яго не калечаць калі гарманізуюць. І я ўпэўненая ў тым, што гэта выдатныя апрацоўкі.

**— Калі я Вас правільна зразумеў, то Вы ўключаеце інструменты ў выкананне даўніх твораў...**

— Так, але гэтыя інструменты таксама спецыфічныя. Мой старэйшы сын Серафім іграе на кантрабасе, ён лаўрэат міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў. У пачатку існавання нашага калектыву ў нас было мала мужчынскіх галасоў. Мы зрабілі апрацоўку беларускага духоўнага верша для жаночага саставу, дзвюх салістак, і кантрабаса; гэта такая сучасная апрацоўка. Мы выконваем выключна старыя спевы, якія можам апрацоўваць, гарманізаваць па-свойму, але ў аснове нашага спеву астаецца старынныя мелодыі. З намі, вось, супрацоўнічае вядомы ў Беларусі калектыў „Стары Ольса” і там Алесь Чумакоў іграе на колавай ліры і на гуслях, мы спяваем разам з ім, нас гэта вельмі радуе бо атрымліваецца вельмі прыгожае выкананне.

**— Яшчэ хачу Вас спытаць, які абсяг прэзентацыі Вашай творчасці, калі ў яе такі агульны рускі напрамак?**

— Бываем у Беларусі, бывалі ў Польшчы. Мы выступаем у навучальных установах, дзе людзі павінны ведаць пра гэты музычны пласт: у духоўных акадэміях, у семінарыях, у Дзяржаўнай акадэміі музыкі, на міжнародных канферэнцыях, на пленарных пасяджэннях, на аплікацкіх канферэнцыях. Мы праводзім майстар-класы па ўсёй Беларусі. У Расію пакуль нас не запрашалі, але ж у іх ёсць свае калектывы, а да нас яны не даходзяць; і гэта той пласт якім мы павінны займацца. Здаецца, што гэта вузкая сфера музыкі, але і ў нас многа напрамкаў, шмат цікавай музыкі і я рада, што нашым маладым пеўчым гэта падабаецца. Мы зараз пачынаем даследаваць беларускія распевы, якія адрозніваюцца ад рускіх тым, што ўжо з XV стагоддзя яны запісваліся ноталінейнай натацыяй. Аднаўляем рэпертуар нашага сучаснага харавога выканаўства Беларусі, напрыклад у мінулым годзе мы ўвялі ў нашу культурную прастору такі стыль як партасная апрацоўка знаменнага распеву, якая была вядомая ў Расіі. Калі мы гэта апрацоўвалі, мы не ведалі, як гэта трэба спяваць, дайшлі слухі да расейцаў, што нейкія беларусы гэта спяваюць, і што яны спяваюць так, як трэба. Бо даследчыкі архіўных матэрыялаў знайшлі, як гэта трэба спяваць, а мы сваім вопытным шляхам дайшлі да таго самага выніку.

**— Сардэчна дзякую за размову і жадаю Вам добрага здзяйснення Вашых задум.**

Гутарыў і сфатаграфаваў
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Абочыны дарог

Зараз некаторыя павятовыя дарогі ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета патанаюць у зарасніках. Паабапал дарог, між іншым, з Плянты ў Семяноўку, у Плянце ад чыгуначнага пераезда да колішняга вакзала (паўкіламетровы адрэзак), з Новага Ляўкова ў Лешукі (гэта 4-кіламетровы адрэзак) ды са Старога Ляўкова ў Лешукі. Тут на абочынах дарог выраслі кусты вербалозу, алешніку, ляшчыны і таполі. Пасля дажджу іх намоклыя галінкі з лісцем яшчэ больш нахіляюцца над маставой. Бачнасць на дарозе звужаецца. Нават на ровары прыходзіцца трымацца сярэдзіны дарогі, а так нельга.

Абступленай зараснікамі дарогай небяспечна ехаць. На дарозе каля Лешукоў не так даўно здарыўся смяротны выпадак. Веласіпедыст з пасажыркай «выскачылі» з палявой сцяжынкі на асфальтавую шашу і трапілі пад легкавушку. Памерла смяртэльна параненая жанчына. Таму неабходна ссячы зараснікі на насыпах дарог і ў прыдарожных равах.

## Новая маставая

31 мая гэтага года ехаў я ўпершыню па асфальтавай дарозе з Падляўкова ў Бярнадскі Мост Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Цяпер тут роўная і гладкая як стол маставая на 5-кіламетровым адрэзку гэтай пушчанскай дарогі. Прыемна па ёй ехаць і на аўтамабілі, і на ровары. Цераз Бярнадскі Мост можна ехаць у Барысаўку або ў Крыніцу (вёска гэтая крыху зводдаль ад прамога камунікацыйнага шляху) і далей у Крывец і да ваяводскай шашы, якая вядзе з Навасадаў у Нарву, Заблудаў і Беласток.

За Падляўковам ёсць новы мосцік і пад ім ачышчаная ад мулу рачулка. Дарогу не праставалі. Яна засталася так як была дагэтуль, з некалькімі крутымі паваротамі. Тут паставілі папераджальныя дарожныя знакі. Яшчэ праз нейкі час не можна з'язджаць на абочыну дарогі, каб не папасці ў роў, маставая ж мае сем метраў шырыні. Абочыны новапабудаванай дарогі мяккія, пясчаныя, не ўбітыя. На новай дарозе вадзіцелю машыны трэба быць асабліва асцярожным.

## Чэрвеньскія зёлкі

У чэрвені палі і лугі ператварыліся ў стракатыя, каляровыя дываны. Усюды кветкі — і ў зялёнай яркай траве, і на кустах. Паветра насычана пахам зёлак. Цяпер добрая пара збіраць і сушыць лекавыя зёлкі. Іх зараз процьма. На іх можна зарабіць сякі-такі грош. Калі збіраць, дык трэба ведаць лекавыя расліны. Збіраем або кветкі, або лісце, або карэнне. Не вырываем усіх зёлак у адным і тым жа месцы. Частку іх пакідаем, каб раслі гадамі. Зёлкі збіраем у сухія дні да калі ўжо абсохне раса. Неабходна ведаць і спосабы іх сушэння. Нельга іх сушыць на сонцы.

Зараз на пункце скупкі зёлак у Нараўцы Гайнаўскага павета купляюць перш за ўсё сушанае лісце бярозы, ясеню, ляшчыны, ажыны, маліны, грэцкага арэха, суніцы, крапівы, мядункі і адуванчыка, цвет падбелу, ясноткі (глухой крапівы), стакроткі, язміну, акацыі і рабіны, кару каліны і крушыны, карэнне аеру, адуванчыка, лопуху, пяцёрніка і жывакосту ды зелле мядункі, ясноткі, крапівы, адуванчыка, святаянніку, чабору і хвошчу.

Узяў я даныя з актуальнага цэнніка. І так, за кілаграм зелля мядункі плацяць 15 злотых, за цвет стакроткі — 30 зл., язміну — 25 зл., падбелу — 18 зл., акацыі — 16 зл. і рабіны — 15 зл., за лісце суніцы — 10 зл., адуванчыка, крапівы і ажыны — па 7 зл. ды маліны — 6 зл., за карэнне адуванчыка, пяцёрніка і лопуху — па 12 зл. аеру — 8 зл. ды жывакосту — 5 зл., за кару каліны — 14 зл. і крушыны — 3,50 зл.

Калі збярэм шмат лекавых раслін, на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў, касметыкі, смакавітых сіропаў для прыпраў для страў. Дык збірайма зёлкі!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЯРАСЛАЎ ВАСІЛЬЕВІЧ!

Спектакля «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» жыхары Бельска чакалі больш за сорак гадоў. Менавіта пасля заўчаснай смерці Яраслава Кастыцэвіча ў 1971 годзе, многія бяльшчане адчулі траўму. Адышоў чалавек, які адкрыў для многіх дзверы ў шырокі свет, дапамог збудаваць лепшае жыццё. Вучні Кастыцэвіча захавалі пра яго надта асабістыя і эмацыйныя ўспаміны. Нягледзячы на суровы і патрабавальны характар, яго слухаліся, шанавалі і любілі.

Пра ўсё гэта я мела магчымасць пачуць з першай рукі.

V Сустрэчы «Зоркі», якія праходзілі ў 1996 годзе, поўнасцю былі прысвечаны Яраславу Кастыцэвічу. Разам з вучнямі з Бельска і Храбалоў мы збіралі біяграфічны матэрыял пра сям'ю Кастыцэвічаў, размалявалі каляровы крыж на Дубічах, ды падаліся ў вандроўку «Шляхам Кастыцэвіча». Разам з намі была дачка Кастыцэвіча, Святлана. Дзякуючы знаёмству са спадарыняй Святланай, была нагода адчуць і больш зразумець асобу нашага героя. Запамяталася сардэчнасць і гасціннасць дачкі і яе мужа Аляксея. Яны запрасілі нашу грамаду, лікам у паўсотню непаседлівых школьнікаў, на свой панадворак. Там нас чакалі вогнішча і пачастунак. Спадарыня Святлана асабіста даглядала, каб ніхто не быў галодны і сумны. Гаспадары дазволілі нават, каб хлапчукі сабе «пастралялі». А гульня такая: хлопцы збіралі каштаны, кідалі іх у вогнішча і чакалі «эфекту». Кожны выбух успрымаўся смехам і вясёлымі жартамі. У міжчасе спявалі «Журавінкі», праводзіліся конкурсы і гульні. Усё гэта адбывалася ў старым, прыгожым садку суровага, легендарнага настаўніка...



Якраз гэты вясёлы вобраз з садка Кастыцэвічаў ажыў у час спектакля «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч», які паглядзела я 26 мая г.г, на сцэне БДК. Мае субяседнікі, якія разам глядзелі спектакль, таксама прызналіся да асабістых успамінаў пра легендарнага настаўніка. І хоць у дыялогах часта гаварылася пра яго прынцыповасць і патрабавальнасць, то і так адчувалася ў яго бок цеплыня, удзячнасць, гонар. Такі менавіта добры настрой прывілі спектакль і ўсё тое, што адбывалася пасля яго.



Іаанна Троц (злева) і Валянціна Бабулевіч

Пастаноўка многаму вучыць. Сцэнарый апавядае пра паасобныя этапы біяграфіі Яраслава Кастыцэвіча. Але ён сам не выступае як канкрэтная асоба. Пра Кастыцэвіча апавядаюць яго вучні, прыводзяць эпізоды са свайго школьнага і гарадскога жыцця, каб падвесці іх лаканічным і трапным каментарыем дырэктара.

Гэты прынцып стрыманы да канца — у апошняй сцэне прыводзіцца архіўнае выказванне самога Яраслава Кастыцэвіча, які «па-свойму» хваліць выступленне сваіх вучняў.

Глядач адначасова можа даведацца шмат пра гісторыю Бельска. Напрыклад, пра тайнае навучанне для беларускіх дзяцей, якое ў час вайны ў сваім доме вёў Кастыцэвіч. Пра сібірскія ссылкі, куды кіравалі беларускую інтэлігенцыю, пра жах 1946 года, пра ваенных сірот, мімавольных сведак расстрэлаў і пажараў. Але спектакль не эпатуе крыўдай. Наадварот, тут паказана адвага і сіла духа беларусаў. Яраслаў Кастыцэвіч паказвае сваім вучням лепшы бок жыцця — адукацыю і культуру. Нараўне з навукай ставіць прынцып добрага выхавання. Яго вучань не можа размаўляць з дзяўчынай трымаючы рукі ў кішэнях або, не азіраючыся на сяброўак, перціся першым у дзверы...

Спектакль «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» гэта шматгадовая праца энтузіястаў роднай культуры. Сцэнарый узнік на аснове ўспамінаў вучняў Яраслава Кастыцэвіча і артыкулаў Пятра Астасевіча і Дарафея Фіёніка. Пераклад і сутнасны дагляд здзейсніла Валянціна Бабулевіч, а вакальнай падрыхтоўкай занялася Анна Фіёнік. Музычная аранжыроўка належыць калектыву, які ў большасці складаюць акцёры бельскага «Антракта». У пастаноўцы, па-за моўнымі памылкамі, няма слабых момантаў. Ад пачатку да канца стрыманы рытм і дынаміка пераказу, пераплятаюцца з сабой звычайнасць і каларытнасць, захапляе ігра маладых акцёраў. І надта прыгожа, без штучнага пафасу гучыць народны гімн «Люблю наш край, старонку гэту». Як важны для ўсяго кантэкст! Што тут дадаць? У пастаноўцы паўсюдна адчуваецца добрая рука і талент рэжысёркі Іаанны Троц.

Не менш прыемна было мне палюбавацца акцёрамі: Оляй Зінкевіч, Пятром Свідэрскім, Максімам Фіёнікам, Юляй Скарбіловіч, Юстынай Саковіч, Уршуляй Олесяк, Патрыцыяй Нічыпарук, Нікай Юрчук, Камілем Ярашэвічам і Інэсай Гапанюк. Напэўна не адзін глядач хацеў бы далучыцца да вашай прыгожай кампаніі...

Спектакль «Добры дзень Яраслаў Васільевіч» можна лічыць візіткай бельскай «тройкі» і паказваць кожны год у дзень патрона, з нагоды 25 Сакавіка, ці ў час сяброўскіх паездак у іншыя школы і цэнтры культуры. Вялікае брава Бельску!

Тэкст і фота
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## УВАГА КОНКУРС! № 24-17

**Дожджык капаць пачынае —**
**Кветка тая расцвітае,**
**Сонца толькі з неба гляне —**
**Кветка мігам і завяне.**
**П......**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 25 чэрвеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 20-17: гром і маланка. Узнагароды, кніжку Міхася Зізюка «Янка, Шмундзік, Бухматка ды іншыя», выйгралі Наталля Гайдук з КШ № 1 у Гайнаўцы, Карнелія Варанцэвіч з Бабік, Караліна Лазарэвіч з Шудзялава, Мая Петручук з Нарвы. Віншуем!**



Расквецім гісторыю Беларусі

## Вялікае Княства Літоўскае

Звычайна імя народа — як імя дзяржавы. Старажытныя беларусы, які жылі ў Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ), назваліся літвінамі. У XIII стагоддзі на землях Беларусі і суседніх краёў нашы продкі ўтварылі ВКЛ, развітую дзяржаву, на той час самую вялікую ў Еўропе. Грамадзяне Княства карысталіся Магдэбургскім правам. Існавалі гаспадарскае самакіраванне, суды, працавалі ўніверсітэты і друкарні. Сімвалам грамадскай свабоды з'яўляюцца менавіта Літоўскія статуты — адна з першых канстытуцый у Еўропе, з якой суседзі бралі ўзор. Заснавальнікам ВКЛ лічыцца князь Міндоўг. Каранаваўся ён 6 ліпеня 1253 года ў першай сталіцы краіны — Навагрудку.

Так, добра думаеце — гэта той жа Навагрудак, які расславіў Адам Міцкевіч. Але гэта ўжо далейшая гісторыя... **(гак)**

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

### НА КАГО СВАРЫЎСЯ ГРОМ

*На каго*
*Сварыўся гром?*
*Можа, на хмурынку,*
*Што схавала пад крылом*
*Сонца за хвілінку?*

*На каго*
*Сварыўся гром?*
*На свавольны вецер,*
*Што прамчаў-прабег віхром,*
*Наламаўшы веццяў?*

*На каго*
*Сварыўся гром?*
*На маланку, можа, —*
*Як і дзецям,*
*Ёй з сярпом*
*Бавіцца нягожа!*

*На каго*
*Сварыўся гром,*
*Аж зямлю хістала?*
*На мяне,*
*Каб пад дажджом*
*З лялькай не гуляла?*

*На каго*
*Сварыўся гром?*
*Можа на матулю,*
*Што мяне*
*Загнала ў дом,*
*Нібы пчолку ў вулей?...*

*На каго ж*
*Сварыўся гром?*



## Арэшкава ў «Ніве»

— Хто з вас першы раз у Беластоку?

У адказ мы пачулі маўчанне. І гэта здзівіла, бо разам са школьнікамі прыехалі дзеткі з садка, якіх матулі трымалі на руках. Аказваецца, усе яны ўжо ведаюць Беласток і яго гандлёвыя галерэі.

Але сёння, 2 чэрвеня г.г., паездка была зусім негандлёвая. У сталіцу Падляшша дзеці прыехалі па культурнай праграме. Спачатку яны завіталі ў рэдакцыю «Нівы», каб пабачыць, дзе нараджаецца «Зорка». Школа ў Арэшкаве, бо пра яе тут мова, асаблівая. Усе навучэнцы беларускай мовы падпісваюцца на «Ніву». Кожны тыдзень дзеці дасылаюць адказы на крыжаванкі і загадкі. Цікавяцца, што адбываецца ў іншых школах. Марыюш Красько памятаў пра рубрыку «Замкі і палацы Беларусі», а Оля Куптэль прыгадала імя Віктара Шведа.

Традыцыйна ўжо мы расказалі пра аўтараў «Зоркі» і характар старонкі, а рэдакцыйная паэтка Міра Лукша прачытала свае вершы «Ляшчына» і «Захварэў мой бедны коцік». Апошні шэдэўр прагучаў у поўнай версіі.

— А хто з вас яшчэ ездзіць на ровары ў школу? — спытаў галоўны рэдактар. Ён сам быў вучнем іхняй школы і даязджаў у Арэшкава праз лес на ровары.

— Я езджу, — адазваўся адзін хлапчук.

Аказалася яшчэ, што гэта не абы-якая язда, бо хлапец даязджае ажно з Дубіч-Царкоўных. Менавіта ў Арэшкавае вучацца дзеці з Дубіч і нават з далёкай Латвіі. Але аснову, сярод усіх 26 навучэнцаў, складаюць дзеці з Пасечнік і Арэшкава. Усе яны ходзяць на ўрокі беларускай мовы, якія вядзе настаўніца Ірэна Герасімюк

Пасля візіту ў «Ніве» нашы госцікі схадзілі ў Драматычны тэатр на спектакль «Каралева Снежка».

Аказалася таксама, што старэйшыя вучні любяць кніжкі, асабліва фантастычныя. І беларускія. Малодшыя дзеці таксама праявілі свой энтузіязм. Вось Давід Сурэль вельмі ўцешыўся, калі за свае дэкламатарскія здольнасці атрымаў у падарунку кніжку Вольгі Гапеевай «Сумны суп». Падобным шляхам у школу ў Арэшкаве павандравалі іншыя беларускія кніжкі: «Снежны чалавек», «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Дзяўчатам спадабаліся адукацыйныя паштоўкі з беларускімі народнымі святамі, прыаздобленыя арнаментам. Яны могуць паслужыць як узор для каляровых вышыванак. Сярод арэшкаўскіх школьнікаў жыве прыгожы сяброўскі дух, а гэта зразумелі мы пасля таго, калі яны паабяцалі абмяняцца між сабой кніжкамі і паштоўкамі-вышыванкамі.

**Зорка, фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Польска-беларуская крыжаванка № 24-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 20-17**

Куст, шал, сонца, міг, бо, шпінат, жак, парасон, кава, акіян, кажан, зрок.

Кіт, шпак, пава, міраж, міна, Гасан, ток, лоб, ніз, нож, яр, парк.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Вікторыя Гаць**, **Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Юстына Астапковіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Крыстына Мішчук**, **Давід Сурэль**, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Мая Тапалянская**, **Марта Петручук** з Нарвы, **Караліна Чарняўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Placek naleśnik
Zeszyt
Jan
Kawa
Baryton
Jar
Iwa
Nastrój
Szansa
Wosk
Żyła
Brzuch
Ryż
Sen
Żyto
Bierz
No
Horyzont




## Маліны

*Да дзяўчаты прыйшлі навіны,*
*Што паспелі ўжо маліны.*
*Пабралі вёдры і збанкі*
*І весела ў лес пайшлі.*

*Была сонечная пагода.*
*Малінак спелых было многа.*
*Хутка вёдры напаўнялісь.*
*Дзяўчаты цешыліся і смяялісь.*

*Пачуў ляснічы голас мілы*
*І, каб не страціць ні хвіліны,*
*Падышоў да дзяўчат, прывітаўся.*
*Малады ляснічы ўсім спадабаўся.*

*– Знаю я гэты лес цэлы.*
*Хадзіце, пакажу малiннік спелы.*
*Ну, трэба трохі падысці.*
*Дзяўчатам цяжка вёдры нясці.*

*– Можа, заўтра нас завядзеш*
*І малінкі нам пакажаш?*
*– Заўтра ў горад выязджаю,*
*У дэлегацыю мяне высылаюць!*

*Адна дзяўчына што лес знала:*
*– Пайду з ляснічым! – сказала. –*
*– Твае маліны мы занясем,*
*Заўтра з табой зноў пойдзем.*

*Калі сталі з ляснічым аддаляцца,*
*Давай да сябе прытуляцца.*
*Пайшлі яны да даліны.*
*Кругом спелыя вялікія маліны.*

*– Давай прысядзем, адпачнем.*
*Можа, штось мілейшае пачнем?*
*Ну і доўга не застанаўлялісь,*
*Моцна і шчыра пакахалісь.*

## Лянок

*Мая маці*
*Любіла лён рваці.*
*Бацька сеяў*
*Загонаў пяць.*
*А калі лён расце,*
*Гаспадару сэрца*
*Ад радасці мацней б'е.*
*Як лянок зацвіце.*
*Здаецца – неба на зямле!*
*Гаспадыні зналі*
*І ў сваю пару лён рвалі,*
*Далей сушылі,*
*Прачом білі,*
*З льнянога семя*
*Алей смачны рабілі.*
*Дзеткі елі, хлеб мачалі,*
*Ад алею бародкі блішчалі.*
*Бацькі лён прадавалі,*
*Добрыя грошы заробляли.*

## Вялікдзень

*Вялікдзень найбольшае свята.*
*А вітаемся радасна*
*«Хрыстос васкрэс!»*
*І адказваем радасна:*
*«Ваісціну васкрэс!»*

*А разам са святам*
*Цёплая вясна прыйшла.*
*Сонца зямлю агравае.*
*Яна ўсіх нас выкармляе!*

**Канстанцін ЦЕЛУШЭЦКІ**
*Новае Ляўкова*

## Бацька і сын

*Мой бацька быў гаспадаром.*
*Я хадзіў за ім кругом.*
*Бачыў, як бацька араў,*
*Касою лонку касіў,*
*Цэпам збожжа малаціў.*

*Калі я стаў падрастаць,*
*Пачаў бацька мяне прывучаць.*
*Касой я добра ўмеў касіць,*
*Найгорш – не ўмеў касу гастрыць.*

*Кляпаць касу я пачынаў,*
*Няраз па пальцах уварваў.*
*Араць пачаў я трактарам.*
*Бацька прыглядаўся і раду даваў.*

*Сказаў: «Добрэ і хутка ты зараў!*
*Буду коней прадаваў!»*
*Камбайнам збожжа малаціў,*
*Чыстае зерне ў клуню вазіў.*

*«У добры час ты, сынок, нарадзіўся!*
*Я ад цяжкай работы гарбатым зрабіўся...*
*Ты машынамі ўмееш рабіць.*
*Будзе табе лягчэй на свеце жыць!»*

## Вялікая рыба

*Сяджу над вялікаю вадой.*
*Вуду таксама ўзяў з сабой.*
*Рабака на кручок закладаю*
*І на каляровы паплавок пaглядаю.*

*Паўгадзіны ўжо праходзіць,*
*А паплаўка нішто не водзіць.*
*Калі гадзіна ўжо мінае,*
*Раптам паплавок нырае.*

*За вуду моцна я лапаю*
*І рыбу вялікую падцінаю.*
*Вуда выгнулася ў дугу.*
*Сусед бяжыць: «Я памагу!»*

*У руках падбірак трымаю,*
*Умела рыбку падбіраю.*
*Рыба вялікая, жоўтая, груба!*
*Можа, важыць і паўпуда!*

*Асцярожна з кручка здымаю*
*І паволі ў ваду адпускаю.*
*Рыба павіляла хвастом мне*
*І згінула ў глыбокай вадзе.*



# Фестываль з казакамі

— Гэта найлепшы канцэрт, на якім я пабывала, — прызнаецца мне васьмігадовая дачка Таня адразу пасля іх першага выступлення. — Мама, скажы, а дзе жывуць такія добрыя людзі? У Літве?

— Яны якраз у Маскве, — адказваю.

— А ў Крынкі не маглі б пераехаць? Мы б іх пасялілі ў нашай хаце.

— Здаецца, дачушка, гэта немагчыма.

— Тады давай мы пераедзем да іх у Маскву, будзем з імі спяваць. Мне без іх вельмі сумна.

Безумоўна, для мяне і Тані героем сёлетняга Фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2017» стаў «Казачы круг». Шчыра кажучы, казакамі я ніколі не цікавілася. Асацыіравала іх з фанатычным, нездаровым праваслаўем, чырвонымі шараварамі, украінскай вышыванкай і чубам тыпу асяледзец пасярэдзіне аголенай галавы. Надта я здзівілася, што «Казачы круг» гэта некалі жорстка праследаваныя праваслаўнымі стараверы.

У Народны дом у Супраслі на канцэрт, прысвечаны памяці, здаецца, таксама старавера Віктара Волкава, папалі мы зусім выпадкова. Вельмі хацелася паслухаць хору Гнесіных — лаўрэата мінулагодняга фестывалю, які ў той жа дзень выступаў у Беластоку. На жаль, пакуль я дабралася са сваёй глыбінкі ў оперную касу, усе білеты разышліся. Увогуле мне чамусьці здавалася, што асноўны канцэрт фестывалю ёсць першы і апошні. Такая думка даводзіла мяне да суму, таму што на нас дваіх прыйшлося б выдаць цэлых сто злотых. На шчасце аказалася, што гэта зусім не так.

Я была ўпэўнена, што на казачым канцэрце ў Супраслі акрамя нас з'явіцца яшчэ некалькі старажылаў, а прыгожая зала Народнага дома будзе сарамліва пуставаць. Рэчаіснасць перарасла мае найбольш смелыя спадзяванні. Людзей сабралася больш чым сядзячых месцаў, уключаючы балкон. Нават каталіцкі ксёндз у каларатцы падпіраў дзверы. А колькі дзетак прыйшло ў бел-чырвоных шапках! На жаль, не мясцовых, а з самой Варшавы. Вядучаму канцэрт, элегантнаму саракагодку, слова «праваслаўны» неяк праз горла не пралезла. Фестываль, у рамках якога адбываўся гэты канцэрт, назваў ён проста «Гайнаўкай», а і пра расейскія карані Волкава таксама ні словам не ўспомніў. Мабыць, нечага баяўся, мо гэтага ксяндза ў дзвярах. Шкада таксама, што не прыйшло яму ў галаву запрасіць на сцэну перакладчыка. Няхай бы і шчыра зацікаўленыя варшаўскія дзеткі паслухалі цікавых аповедаў кіраўніка казацкага калектыву, выдатнага этнографа Уладзіміра Скунцава. У зале сядзела жонка Віктара Волкава, але нагодай даць ёй слова таксама шаноўны канферансье не пакарыстаўся.

Гаворачы пра арганізацыю канцэрта, вялікі паклон належыць гэтаму безумоўна прафесіянальнаму калектыву (спявалі нават у фільмах Нікіты Міхалкова) за тое, што артысты не пратэставалі супраць невыноснага шуму ў мікрафонах і адсутнасці кандыцыянераў (адзетыя былі ў казацкія шапкі, мундзіры, доўгія сукві). Вялі яны сябе надзвычай сціпла і акуратна. Зразу відаць, што праблем з заніжанай самаацэнкай у іх няма. Вось ім наша Еўропа!

Казакоў пабачылі мы таксама ў першы дзень конкурсных слуханняў. Захаплялі не толькі акуратнымі паводзінамі, але і шчырасцю, аўтэнтычнасцю рэпертуару, выканання, стаўлення да слухачоў і саміх сябе. Ну і асаблівай вопраткай. Мне асабіста кранула прыгожасць доўгіх жаночых сукняў і цікава вязаных, шоўкавых хустак на галовах. Думаю, што перадаць дух малітвы ў філармоніі асабліва складана. Добра атрымліваюцца там музычныя эксперыменты, як джазавыя інтэрпрэтацыі царкоўных кампазіцый вучаніц музычнага каледжа з Наваполацка ці акустычныя неспадзяванкі маладых дзяўчат з каледжа культуры і мастацтва з Жытоміра. А вось казачая малітва прамовіла нават у філармоніі. І зусім не ведаю чаму шаноўнае журы конкурсу гэтага не прыкмеціла. Прытым мне здавалася, што стыль іх стараверскага велікоднага напеву мне добра вядомы. Так калісь спяваў царкоўны хор у Востраве. Знаёма гучала таксама іх валачобная песня, выкананая пры суправаджэнні казацкай ліры.

Але гэта не канец нашай прыгоды з казакамі. У суботу пасля чатырох гадзін конкурсных слуханняў у філармоніі мая дачка зацягнула мяне да «Сподкаў». Мушу прызнаць, часам варта паслухаць дзяцей. «Казачы круг» аказаўся непаўторным. Відавочна ім ёсць пра што сказаць, пра што спяваць. Няхай шкадуюць тыя, якія туды не пайшлі. Мне было сорамна з-за зусім нецікавых свету беластачан. У першай частцы канцэрта кіраўнік калектыву даў голас свайму настаўніку — адпаведніку бацюшкі, простаму селяніну, дзядулі з ветлівай усмешкай. Распавядаў ён пра свой цікавы стараверскі лёс, пра трываючую некалькі стагоддзяў эміграцыю яго сям'і ў Турэччыну, пра навуку царкоўнага спеву ў грэчаскіх манастырах.

Настаўнік іграў таксама да танцаў на архаічным, аднарадковым баянчыку. Музыка, вядома, была не менш, а мабыць больш архаічнай, чым сам баянчык. Крыху па-ўсходняму аднастайна, трансова, але падрывала да танца. Больш таго, ён нават запрасіў да танца маю Таню. І мне слёзы набеглі ў вочы, убачыўшы гэтага дзядулю, які на канец ад удзячнасці цалаваў рукі майго дзіцяці. Такое проста не бывае. Цяпер няма дня, каб Таня не ўспамінала казакоў. Слухае іх кружэлку са спецыяльным прысвячэннем ад кіраўніка калектыву, распазнае знаёмыя галасы, мелодыі. Добра помніць казацкую польку «пальцы, пятка, раз, два, тры...». Спадзяецца, што можа праз год зноў прыедуць.

Іаанна ЧАБАН

# Францішак Берніковіч. Успаміны і запісы (4)

## Дзяўчына — рыба

У вольныя хвіліны адведвалі мы мол. У канцы мола прысутныя кідалі ў ваду манеты, а дзяўчына ў вадзе вылоўлівала і паказвала ў руцэ, што мае манеты. У нашым звязе знайшлася групка жаўнераў, якія нанялі лодку, неяк дагаварыліся з дзяўчынай, каб села ў лодку. Размова была пераважна на мігі. Дзяўчына спадзявалася, што можа здарыцца, і дагаварылася з кіраўніком аб'екта, каб той трымаў запасную лодку. Толькі дзяўчына села ў лодку, а нашы хлопцы-малойцы пачалі гушкаць лодку. Дзяўчына, прыкідваючыся, што моцна баіцца, крычала ад страху, але нашы хлопцы плылі далей у мора. Калі былі дзесь паўкіламетра ад мола, дзяўчына выскачыла з лодкі і перавярнула яе дагары дном, а нашы хлопцы-героі не ўмелі зусім плаваць. Мы на беразе мора прыглядаліся падзеям. І калі дзяўчына завярнулася і паплыла да мола, кіраўнік аб'екта спадзяваўся такой сітуацыі. Падрыхтаваў лодку, каб забраць тапельцаў.



■ Францішак Берніковіч з вучнямі



## Сан-Даньеле

Кантакты нашых хлопцаў з мясцовым насельніцтвам не былі даспадобы немцам. Яны, бачачы гэта, сказалі: „годзе". Загрузілі нас на тры самаходы і праз Трыест, Удыне завезлі ў прыальпійскі гарадок Сан-Даньеле. Але і тут кантакты з мясцовым насельніцтвам прадаўжаліся пераважна ў начных каварнях-вінярнях. Нам было ўсё ж лягчэй — не было рэйдаў па горах. Праца наша абмежавалася да ахоўнай службы. Кантакты нашы давялі да таго, што двух маіх сяброў — Мішка з Менска і Янка Філістовіч з Вілейшчыны апынуліся ў італьянскай партызанцы. Адбілася гэта на маёй скуры. 15 верасня 1944 г. мяне арыштавалі. Удзел у гэтым браў камандзір Дзітрых. Пасадзілі мяне ў самаход і павезлі ў СД ва Удыне. Там Дзітрых сустрэў мяне палкай, б'ючы па галаве. Я хутка страціў прытомнасць, бо далей не ведаў, што дзеялася са мною. Дайшоў я да сябе, лежачы на матрацы, якіх многа было ў памяшканні. Абудзіўся я, калі нада мною стаяў схілены італьянец у вайсковай форме „альпіна" (альпійскага стралка). Ён даваў мне чорны акурак, гаворачы: „Фукаро?". Я ведаў, што гэта абазначае „курыш?". Я адказаў: „Но фукарэ". У памяшканні быў пажылы славенец, які разумеў маю беларуска-польскую мову і стаў перакладчыкам італьянскай мовы. На другі дзень мяне забралі, каб узяць персанальныя даныя: „Якая нацыянальнасць?". Ведаў, што я беларус. Але як сказаць па-італьянску „белы"? „Бянсо", і сказаў: „бянсоруссо". Так і запісаў работнік канцылярыі.

## „Ансе уно руссо!"

Некалькі дзён прайшло і мяне перавялі ў так званую рускую камеру, у якой не было ані аднаго рускага. Калі мяне туды ўвялі, пазнаў я свайго жаўнера, які папаўся за тое, што, стоячы на варце, засвістаў. Ён быў арыштаваны ў Сан-Даньеле так як і я. Зваўся ён Янка. Ды быў яшчэ Іван са Старадубу (Браншчына). Мы яго называлі Старадубам. Гаварыў ён, так як і я з Янкам, па-беларуску, закідаючы часам рускае ці ўкраінскае слова. Быў яшчэ адзін кабардзінец і групка італьянцаў, сярод якіх вылучаўся Джаванні. Гэта ён аднаго дня ўзяў мяне за рукаў, адной рукой паказвае на столь і кажа: „Ансе уно руссо". Я зразумеў, што на паверху. Узяў мяне з Янкам і вядзе нас на паверх. Стукае ў дзверы адной камеры. Дзверы адкрыліся і ў іх паказаўся хлопец — гадоў 25.

— Бон джорно!

— Бон джорно, — адказвае.

Я пытаюся па беларуску:

— Адкуль вы? Як вас зваць?

— Я — Коля са Смаленшчыны, з Дарагабужскага раёна.

Я падумаў: „Гэта на ўсход ад Смаленска — пэўна рускі". І спытаў Колю:

— Што — рускі?

А ён на гэта:

— Што вы, заходнікі, нас, беларусаў Смаленшчыны, называеце рускімі!? Мы такія беларусы як і вы!

Сорамна зрабілася мне за такую нетактоўнасць. Папрасіў выбачэння.

— Што сталася, што тут сядзіш? — спытаў я.

— Я кінуўся на немца і за гэта асудзілі на смяротнае пакаранне. Ужо шэсць месяцаў сяджу тут і чакаю, калі мяне забяруць, каб усмерціць. А як вас зваць? — спытаў мяне Коля.

— Францішак, — адказаў я яму.

— Што? Паляк? У вас такое польскае імя.

Я паправіў яго:

— Скажы — каталіцкае. Вы ведаеце Францішка Скарыну?

А Янка дабавіў:

— І Францішка Багушэвіча?

— Яны былі беларусамі і мелі імя Францішак, — дабавіў я Колі. — Вы бацькоў маеце, Коля? — спытаў я.

Коля неяк збянтэжыўся і сказаў:

— Былі.

Зразумелі мы яго збянтэжанасць і, адходзячы, сказалі:

— Коля, адведай нас калі-небудзь.

А па нядзелях можна было гэта рабіць.

Я адходзіў 15 студзеня, а ён яшчэ сядзеў. Коля, калі дзе-небудзь ты ёсць, адгукніся, калі не нам, то нашай Бацькаўшчыне!

## На поўнач

17 студзеня я выйшаў з турмы. Якая радасць мне! Якая радасць маім сябрам! На вечар у пакоі малодшых камандзіраў пачастунак для нас, зволненых. Ніхто з нас не ведаў прычыны звальнення з турмы. Праўда, мы не былі ні ў чым вінаватыя. Аказваецца, камандзір роты атрымаў загад грузіцца ў вагоны і як найхутчэй злучыцца з асноўнай часткай батальёна, які знаходзіўся ў Ніжняй Сілезіі. Загады ў войску трэба выконваць ці падабаецца гэта, ці не.

І мы ў дарозе, і зноў італьянскі гарадок Потэбна на мяжы з Аўстрыяй. І пасля аўстрыйскія гарады: Вілах, Клягенфурт, Грац і хутка Вена, а далей ужо Чэхія. Праехалі яе хутка і сустрэлі першую мясцовасць Богумін, якая ў 1938 г. перайшла да Польшчы. Даходзяць нас чуткі, што блізка знаходзіцца савецкі фронт. З цягніка памясцілі нас у нейкую польскую вёску. Тут зусім добра дагаварваемся з жыхарамі. Мы мелі ахоўваць вёску. Але прыходзіць загад грузіцца ў вагоны і ехаць далей на захад — кірунак Брэсляў, Дрэздэн. У дарозе дайшла нас чутка, што тут ужо савецкія танкі — але гэта не была праўда.

Спакойна праехалі Опельн, Брэсляў і прыехалі ў Дрэздэн. Тут нашым домам былі вагоны, у якіх мы спалі. Харчаванне мелі ў рэстаране недалёка вакзала. Прайшло гэтак пару тыдняў, калі зноў атрымліваем загад ехаць у Прагу. Ад'ехалі 50 км, калі прыходзіць вестка, што Дрэздэн перастаў існаваць у выніку амерыканскай масавай бамбардзіроўкі.

У Празе нам далі вакансію. У сувязі з тым, што прыбліжалася Савецкая Армія, на гвалт трэба было рабіць усякія ўмацаванні на дарогах, будаваць бункеры, якія мелі звужаць асфальтавыя дарогі. Пачаліся сяброўскія кантакты з чэшскімі партызанамі, а гэта дало такі плён, што адзін звяз — III, камандзірам якога ад беларусаў быў Янка Філістовіч, на поўдні Чэхіі перайшоў да партызан. Іх базай стаў лес каля горада Хрудзім і Пуста Рыбная недалёка Велінкі. Нас — I і II звяз — скіравалі на блакаду III звяза, а тым самым акружылі нас, абяззброілі і самаходамі завезлі нас у турму ў Пардубіцах. Там у выніку вялікага катавання памёр наш добры сябра Янка Дзімашкевіч з Маладзеччыны. Мяне і яго абвінавацілі ў сувязі з Філістовічам, правадыром беларускай партызанкі ў Чэхіі. Абвінавачвалі нас, перш за ўсё мяне, што я пісаў лісты Філістовічу, але я добра ведаў, што гэтага не было. На допыце я сказаў: „Пакажыце мае лісты". Але было горш Дзімашкевічу. Ён ездзіў у той горад, назвы якога не помню. Каталі, каб прызнаўся, што сумесна з Янкам Філістовічам урадзілі пайсці ў партызанку. Моцна катавалі і камандзіра III звязу Пераногіна. Сам ён быў з Менска. Ён меў больш моцныя нервы як Дзімашкевіч і застаўся ў жывых. 2 мая 1945 г. уладу ў горадзе ўзялі чэшскія паўстанцы. Яны вызвалілі нас з турмы.

## У савецкай арміі

Быў чэрвень 1945 года, калі мяне прызвалі ў савецкую армію — у так званы вучэбны батальён у Бенешаў ля Прагі. Прабываў я ў ёй да 29 жніўня. Камандаванне батальёна адправіла мяне і некалькі іншых салдат, былых польскіх грамадзян, у Польскае пасольства ў Празе. Там далі мне дакументы і скіравалі ў Польшчу як рэпатрыянта. Хутка я з кардонным чамаданам апынуўся ў Польшчы — у Варшаве. Дзіўна выглядала Варшава: забудова пабіта, вуліцы завалены друзам. Толькі на важнейшых вуліцах курсавалі трамваі і аўтобусы. Быў пагодны вераснёвы дзень, як стаўся цуд. Ідучы тратуарам я наткнуўся на сваяка Валодзю, які здзівіўся, пабачыўшы мяне жывога.

— А ты дзе затрымаўся ў Польшчы? — спытаў мяне.

Я адказаў, што толькі шукаю дзе-небудзь затрымацца. І тады ён кажа:

— Ты знаеш, многа нашых прыехала на Беласточчыну. А твой дзядзька Андрэй жыве ў вёсцы Грабаўка каля Беластока. Едзь да яго — там затрымаешся.

І так кірунак майго далейшага маршруту быў вядомы. З Варшавы на дахах вагонаў еду я ў Беласток. Беласток аказаўся свойскім горадам. Часта можна было пачуць беларускую мову. „Гэта ж наш горад", — падумаў я сабе. У першага сустрэтага прахожага я спытаў, як дастацца ў Грабаўку. Ён мне сказаў: „Гэта недалёка — 4 км на ўсход ад Беластока".

Прайшоў я горад. Далей вяла палявая дарога. Калі я павярнуў на яе, сустрэў дзяўчыну, якая ішла ў вёску і сама была з Грабаўкі.

— Да каго вы хочаце дастацца? — спытала мяне.

Я кажу:

— Да Андрэя Сурвілы.

— А ён жыве каля нас.

І так мы ідзем удваіх. Прыгожай здалася мне мая будучая суседка. Звалася Галінай. Спадабалася яна мне і хіба я ёй — малады хлопец у вайсковай савецкай форме. Хутка мы прайшлі кавалак лесу і ўжо наша Грабаўка.

❖ Францішак БЕРНІКОВІЧ

# Засталіся адно ўспаміны (7)

Вясельны дом Ніны, так называлася жонка Васі Матвеюка, знаходзіўся на пачатку Рэпіскаў. Цяжка зараз прыгадаць тамтэйшы абрад прыдання пяцідзесяціпяцігадовай даўнасці. Прыпамінаю супольнае застолле ў недабудаваным памяшканні. Лаўкі для сядзення з нягебляваных дошак былі прыкрыты каляровымі дыванамі. Вясельны столь складалі «вясковы напой з градусамі» ды мясныя вырабы ўласнай вытворчасці. Былі вялікі ўпрыгожаны каравай, маршалак, перавязаны вышываным ручніком, вясельныя прыпеўкі дружак. А гулялі пад гукі гармоніка і барабана, на якіх гралі мясцовыя музыканты.

У Курашава вярталіся апоўначы добра пахмеленыя. Начаваў у Масайлаў. У аўторак каля поўдня адвезлі мяне на машыне ў Гайнаўку па рэкамендацыі Васі Нікалаюка, бухгалтара сельскагаспадарчага гуртка. Маё знаёмства з сужонствам Масайлаў, гаспадарамі, доўжылася па апошні дзень працы ў ВПК. У пазнейшых гадах яшчэ неаднойчы гасцявалі мы з шафёрам Валодзем Скепкам на Казанскую. Кожны раз, калі пасля начлегу вярталіся мы ў школу, сын Масайлаў, Янка, садзіўся разам з намі ў машыну, паколькі вельмі цікавіўся аўтамабілямі. Казалі, што будзе шафёрам. І прадбачанні збыліся. У 1972 годзе наведаў нас у Кузаве неспадзяваны госць. Гэта быў Янка Масайла, сын курашаўскага гаспадара, якога некалі падвозілі мы на машыне ў школу. Завязалася размова. Запрасілі мы з жонкай госця на абед,



■ Злева: Уладак Скепка (родам з Дубін) — кіраўнік кінаперасоўкі, Вальдэк Богуш — кінаапаратар беластоцкага кіно «Тон»

затым на начлег. Успамінам не было канца. Янак працаваў шафёрам у Гайнаўцы. Вазіў гравій на пабудову чаромхаўскіх дарог. Запрашаў нас у Курашава наведаць бацькоў. Не атрымалася. Толькі зараз, калі я ўзяўся спісваць успаміны аб працы ў брыгадзе BR-9, патэлефанаваўя солтысуў Курашава. Марыюш Філіманюк нічога аб кіношніках не мог сказаць. Пазней нарадзіўся. Трубку перадаў свайму бацьку, Васілю.

— А як жа, памятаю кінаперасоўку. Сам ранішнікі глядзеў, — адказаў пасля таго, як я адрэкамендаваўся.

— А якога вы года нараджэння?

— 1951.

І вось што я пачуў аб курашаўскіх знаёмых. Васіль Матвяюк, у якога гуляў я на вяселлі, развёўся з Нінкай. Некалькі год таму памёр. Няма ў жывых музыканта Росціка і бухгалтара сельскагаспадарчага гуртка Васі Нікалаюка. Жывуць Янка і Марыя Масайлы ды Янка Паўлючук. Ім па 86-87 гадоў.

Сын Масайлы, Янка, жыве ў Гайнаўцы. Па прафесіі ён інструктар па ваджэнні аўтамабіля. А з Нінай Грыгарук, нашай «актывісткай» кожную нядзелю спатыкаемся ў царкве, — завяршыў размову Васіль Філіманюк.

Не адзіны курашаўскі эпізод запісаўся ў біяграфіі 22-гадовага кіношніка. Былі іншыя сёлы і падзеі, якія назаўсёды заселі ў маю памяць. Вось яны.

У лістападзе 1962 года заязджалі мы яшчэ ў Трывежу, Ласінку, Рэпіска, Барысаўку і Навасады. У Трывежы фільмы дэманстравалі мы ў школе. Будынак невялічкі, драўляны. Зала прызначана на 35 гледачоў. Тут я ўпершыню сустрэўся з настаўнікам-пенсіянерам Васілём Дзунам, які арганізаваў гурткі БГКТ. Хто настаўнічаў у Трывежы, не прыпамінаю. Прыгадваю адно прыстарэлую бабульку Пракапюк, уладальніцу школьнага будынка і заадно прыбіральшчыцу. Жыла з сынам Васькам. У Гайнаўцы паставіў ён першую «таксічку». Наведваў ён матулю ў Трывежы, іграў на гармоніку. Мы з ім дружылі. У Рэпісках кінасеансы ладзіліся ў святліцы. На абеды заходзілі да настаўніцы Ірэны Васілюк, якая вучыла ў Курашаве. А дзеткі з Рэпіскаў у школу хадзілі ў Барысаўку.

(праця́г будзе)

Уладзімір СІДАРУК



## http://belbiblia.by

Акурат чатыры гады таму ў адным з чэрвеньскіх нумароў 2013 года „Ніва" пісала пра сайт Біблійнага таварыства ў Рэспубліцы Беларусь, які месціўся ў інтэрнэце па адрасе www.biblia-by.org. Цяпер, калі набраць на сваім камп'ютары гэты адрас, то ўжо нікуды не трапіш. Але гэта не значыць, што разам з сайтам знікла і ўласна Біблійнае таварыства. Яно папросту „пераехала" на іншы інтэрнэт-рэсурс, адрас якога — **http://belbiblia.by.**

На першы погляд, шмат чаго з мінулага сайта перайшло на новы, але ёсць і адрозненні. Так, цяпер першай моваі, па замоўчванні, ёсць не беларуская, а руская. Таксама з'явілася англійская версія сайта.

Як і раней, на галоўнай старонцы размешчана прэзентацыя данай арганізацыі, але крыху адрозна ад папярэдняга самапрадстаўлення і з большым гонарам пра сябе. „Міжканфесійнае хрысціянскае рэлігійнае брацтва «Біблейскае таварыства ў РБ» з'яўляецца буйным цэнтрам па распаўсюджванні Біблій і іншай духоўнай літаратуры ў краіне, валодае шырокім каталогам распаўсюджваных выданняў. Таварыства ўдзельнічае ў перакладзе Бібліі на беларускую мову, актыўна супрацоўнічае з цэрквамі розных канфесій, культурна-асветніцкімі, дабрачыннымі арганізацыямі ў Рэспубліцы Беларусь, сродкамі масавай інфармацыі ў справе духоўнай асветы насельніцтва, ажыццяўляе выданне кніг Святога Пісання на беларускай і рускай мовах", — распавядаюць уладальнікі сайта.

Яшчэ адным важным і ў той жа час не зусім зразумелым адрозненнем ёсць расповед пра беларускамоўную Біблію, якую Біблійнае таварыства выдала некалькі гадоў таму, працуючы над ёй цэлае дзесяцігоддзе. Калі на папярэднім сайце тэкст пра яе быў на беларускай мове, то цяпер па-беларуску ў беларускамоўнай версіі толькі невялікі анонс на галоўнай старонцы, а ўвесь астатні тэкст — па-руску. Такая акалічнасць даволі дзіўная, зважаючы на існаванне рускамоўнай версіі.

Калі цікаўны карыстальнік захоча больш падрабязна пазнаёміцца з Біблійным таварыствам, то яму варта зазірнуць у рубрыку „Пра нас". Адметна, што па змесце яна мала чым адрозніваецца ад таго, што было пададзена на ранейшым сайце таварыства. Заснавальнікамі арганізацыі ўсё яшчэ з'яўляюцца хрысціяне розных канфесій: праваслаўнай, рымска-каталіцкай, грэка-каталіцкай, евангельскіх хрысціян-баптыстаў, хрысціян веры евангельскай, адвентыстаў сёмага дня. Праўда, гэтыя заснавальнікі не надта паклапаціліся, каб карыстальнікі, якія ведаюць, што існаваў ранейшы сайт таварыства, маглі б пабачыць інфармацыю хаця б трохгадовай даўніны. На данай старонцы ў падрубрыцы „Наша дзейнасць" мы можам паглядзець, што публікавалася на інтэрнэт-бачыне толькі з 2015 года, ды і то не за ўсе месяцы.

Пра кнігі на беларускай мове, што выдала Біблійнае таварыства, можна даведацца на старонцы „Бібліі" ў адпаведнай падрубрыцы. Праўда, і тут зноў жа не вельмі зразумела — толькі па-руску. Да таго ж прадстаўлены толькі тры такія кнігі — згаданая вышэй Біблія, Новы Запавет і Евангелле ад Марка і Дзеі апосталаў. Калі таварыства ставіць перад сабой на мэту друкаванне рэлігійных кніг па-беларуску, то падаецца сціплым такі вынік 25-гадовай працы.

Пра тое, якую дапамогу аказвае Біблійнае таварыства, распавядаецца на старонцы „Дабрачыннасць". Сярод тых, хто яе атрымлівае — дзеці, пацярпелыя ад Чарнобыля, дзеці-сіроты, новыя цэрквы, цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Дзеяч беларускай эміграцыі ў Аўстраліі



## 35 гадоў з дня смерці Язэпа Малецкага

Грамадскі дзеяч, публіцыст, медык, педагог, дзеяч беларускай эміграцыі Язэп Малецкі нарадзіўся 12 студзеня 1906 г. у вёсцы Якужы (цяпер у Міёрскім раёне Віцебскай вобласці). У пачатковую школу хадзіў у 1914-1917 гг. Школа месцілася ў доме, які збудаваў родны дзядзька Малецкага. Скончыў гімназію імя Стэфана Баторыя ў Друі, пасля медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Стварыў гурток Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў вёсцы Казаронцы. Пераследаваўся паліцыяй за распаўсюд беларускіх кніжак і газет. Працаваў лекарам з 1935 г., спецыялізаваўся на акушэрстве і гінекалогіі ў Варшаве.

Са студэнцкіх гадоў Язэп Малецкі браў удзел у беларускім культурным і нацыянальным руху. Яшчэ ў 1927 г. на 25 Сакавіка разам з сябрамі выдаў адозву да народу накладам 120 асобнікаў, надрукаваную на гімназічным ратактары. Быў рэдактарам і выдаўцом беларускіх газет, календароў, сябрам Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта. У час Другой сусветнай вайны ў 1939 г. быў прыцягнуты як лекар у польскае войска, потым вярнуўся ў Вільню. У 1941 г. займаў пасаду намесніка Беларускага нацыянальнага камітэта. Ратуючыся ад пераследу літоўцаў, з'ехаў у Гародню. З восені 1942 г. быў у Баранавічах. Працаваў лекарам у баранавіцкіх шпіталях разам з іншымі беларускімі дактарамі-патрыётамі Анатолем Бярозкам (Мітрафанам Рэпкаў-Смаршчком), Усеваладам Каралём, Навумікам. Кіраваў медыцынскай школай у Баранавічах. Пасля ў 1944 г. стаў намеснікам прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады на Вялейскую акругу. У 1944 г., ратуючыся ад савецкага пераследу, эміграваў. З'ехаў спярша ў Нямеччыну, а потым у Аўстралію.

У Нямеччыне Язэп Малецкі стаў ініцыятарам і галоўным арганізатарам Аб'яднання беларускіх лекараў на чужыне, рэдагаваў часопіс „Медычная думка". Атрымаў ступень доктара медыцыны ў 1955 г. у аўстралійскім Сіднеі. У Аўстраліі быў сябрам першай управы Беларускага аб'яднання ў штаце Новы Паўднёвы Уэльс, узначальваў яе ў 1960-1961 гг. Дапамагаў у выданні месячніка „Новае жыццё ў Сыднэі". Іншы беларускі эмігрант Мікола Антух у сваіх успамінах згадвае, як яны стварылі ў Сіднеі беларускі клуб, у якім Малецкі быў намеснікам Антуха. Пазней Малецкі ўзначальваў федэральную раду беларускіх арганізацый Аўстраліі, быў яе старшынёй у 1979-1980 гг. З'яўляўся прадстаўніком Рады БНР у Сіднеі. Фінансава дапамагаў як арганізацыям Аўстраліі, так і музею і бібліятэцы ў Лондане, Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Фактычна быў карэспандэнтам беларускіх эміграцыйных перыёдыкаў, пісаў пад псеўданімам Я. Лаўрыновіч. Друкаваў успаміны, медыцынскія публіцыстычныя артыкулы. У 1976 годзе выдаў кнігу ўспамінаў „Пад знакам Пагоні". У прадмове да гэтага каштоўнага выдання аўтар напісаў наступнае: „Мэта кніжкі — перадаць для гісторыі праўдзіва падзеі на нашай бацькаўшчыне ў Другую Сусветную вайну, паказаць вялікі ўздым народу ў змаганьні за свае правы ды ягоную працу над адбудовай вольнага жыцьця. Яна разам і прызнаньне тысячам суродзічаў, якія ў цяжкую пару змаганьня з ворагамі не шкадавалі сваіх сілаў, здароўя, маёмасьці, свайго жыцьця".

Памёр Язэп Малецкі 6 чэрвеня 1982 г. у Сіднеі, пахаваны на могілках Роквуд.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




# Новыя чытачы „Нівы”

Солтысы, радныя, настаўнікі і карэспандэнты „Нівы” могуць шмат зрабіць, каб павялічыць колькасць чытачоў нашага роднага штотыднёвіка. Мне — як раднаму і солтысу Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета — вельмі залежыць, каб „Ніву” чыталі ў Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Лешуках, Плянце і ў Нараўцы ды ў іншых навакольных вёсках. Зараз летам магу даехаць на ровары ў шматлікія вёскі.

І так, „Ніву” № 22 ад 28 мая гэтага года я купіў у краме ў Нараўцы і ў газетным кіёску ў Гайнаўцы і прывёз Яўгеніі і Юрку Равінскім, Міраславе Балтрамюк і Галене Барташук са Старога Ляўкова, Марыі і Канстанціну Целушэцкім, Ірэне і Яўгену Харкевічам, Аляксандры і Юрку Ляшчынскім, Шыману Харкевічу, Мікалаю Скепку, Міхалу Болбату, Раісе Баканач, Валянціне Рыгаровіч, Ірэне Ігнацюк, Эве Дзеніс, Вользе і Віталю Скепкам ды Вользе Максімюк з Новага Ляўкова, Марыі Янель, Веры Клімюк, Марыі Васько і Валянціне Самойлік з Плянты, Альжбеце Кунцэвіч з Лешукоў ды Зіне Пацэвіч з Нараўкі. Усе яны зацікаўлены, пра што піша беларускі тыднёвік „Ніва”. Новымі чытачамі нашай беларускай газеты сталі Галена Барташук са Старога Ляўкова, Марыя Васько з Плянты, Ірэна Ігнацюк і Міхал Болбат з Новага Ляўкова і Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў.

Пастаянна ды дакладна чытаюць „Ніву”, між іншым, Кастусь Целушэцкі і Валянціна Самойлік. Спадарыня Валянціна чакае мяне кожны тыдзень. Яна і расказвае мне, што ў апошнім нумары „Нівы” найбольш яе зацікавіла. Дзеліцца сваімі заўвагамі. Мае сваіх любімых ніўскіх публіцыстаў. Шукае іх прозвішчы на старонках часопіса.




„Ніву” № 23 ад 4 чэрвеня г. г. пачала чытаць Альжбета Казлоўская з Новага Ляўкова. Заахвоціў яе пагартаць старонкі роднага часопіса аўтар гэтага допісу. Канстанцін Целушэцкі ў гэтым нумары дакладна прачытаў перш-наперш літаратурныя творы Ірэны Лукшы, Ганны Садоўскай і Любы Харкеіач. Добрыя творы. Глыбока ў душу запаў яму твор пад загалоўкам „Адна” Любы Харкевіч. Спадарыня Люба зарэкамендавала сябе як празаік на старонках „Нівы” ў мінулым годзе. Не ведаю, хто лепш ад яе напісаў бы пра могілкі.

2 чэрвеня навейшы, дваццаць трэці, нумар штотыднёвіка „Ніва” атрымалі ад навалаяўкоўскага солтыса, між іншым, Лідзія Казлоўская, Валянціна Ігнацюк і Марыя Крышань з Новага Ляўкова ды Валянціна Самойлік з Плянты. Круг ніўскіх чытачоў у Нараўчанскай гміне пашыраецца. Я буду рабіць усё магчымае, каб перш-наперш у Нараўчанскай гміне чыталі родны часопіс у сама менш дзесяці а то і больш вёсках. Буду больш пісаць пра тутэйшых жыхароў і іх справы. Раней у Нараўчанскай гміне было нямала ніўскіх карэспандэнтаў. Зараз засталося толькі двух.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Адгаданка

**1.** хімічны элемент н-р 7, які лёгка знайсці ў Гродне, **2.** від рыцарскага або спартыўнага спаборніцтва, **3.** дашчатае ўзвышэнне, падлога, **4.** горад, ад якога Прыпяць кіруецца на ўсход, у напрамку Турава і Мазыра, **5.** справе канец у... квітанцы, **6.** адзінка сілы, **7.** абавязак або пазычаныя грошы, **8.** элементарная частка прыпоскі, **9.** не любіць працаваць, **10.** Сяргей, расійскі паэт-імажыніст (1895-1925), **11.** усходнеафрыканская выспа, у якой... бар.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Ара, бег, Кітай, пляма, Рылееў, Сочы, Ціса.

Рашэнне: **Май лясы прыбірае, лета ў госці чакае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | | 3 |
| | 4 | | | | | | | | |
| | 5 | | | | | | | | |
| | | | 6 | | 7 | | | | |
| | | | 8 | | | | | | |
| | | | 9 | | | | 10 | | 11 |

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 11.06 — 17.06

**(22.03. — 20.04.)** Творчыя інспірацыі і цікавыя весткі. 12-14.06. знакамітыя рашэнні наконт кар’еры або вучобы. Але 13-17.06. будзеш прымушаны глянуць праўдзе ў вочы. Грошай хопіць, але лепш рукі прэч ад банкамата!.. Не стаў спраў рубам. 11-12.06. захочацца, каб дома гучаў дзіцячы смех. З 16.06. усё можа здарыцца, нават прапанова выезду за мяжу.

**(21.04. — 21.05.)** 11-12.06. прыемныя неспадзяванкі, вольным магчымае каханне з першага пагляду. Нагоды да неблагога заробку. Будзеш душой кампаніі. Карысныя змены на працы. Пасля худых тыдняў выкінеш вужа з кішэні, пачнецца ў цябе фінансавая хоса, купі сабе штосьці файнае. Праводзь як найбольш часу на свежым паветры.

**(22.05. — 22.06.)** Пойдзеш з прагрэсам і не зробіш старых памылак. 13-15.06. можаш стаць ахвярай інтрыгі або падману. Але Сонца табе свеціць, дасі сабе рады ва ўсіх справах. Мноства інспірацыяй і задум, і хаця менш грошай і традыцыйнай прывабнасці, але і так здабудзеш тое, што схочаш. Асцярожна з новымі знаёмствамі і лекамі «якія памагаюць» тваім знаёмым.

**(23.06. — 23.07.)** Многа энергіі і новых ідэй. Маеш шанц паправіць свой рэйтынг у прафесіі і фінансах. 11-12.06. можаш з поспехам пазмагацца за чыёсь сэрца. У пары папраў сваю цярплівасць і зразуменне. У душы можа засеяцца неспакой за блізкіх, але не трапляй у паніку. Не зробіш шмат без засяроджанасці. Найлепш было б, каб не ўключаць тэлевізара, інтэрнэту, не чытаць газет, каб не чуць пра страшныя рэчы.

**(24.07. — 23.08.)** Энергіі маеш крыху менш, але маеш падтрымку Сонца і не пакіне цябе спрыт, пераможаш перашкоды. 12-14.06. маеш шанц зрабіць якісь добры інтарэс або штосьці купіць па добрай цане. Але ж 13-17.06. будзеш прымушаны больш пастарацца, каб звярнуць на цябе ўвагу. З 16.06. (да 20.06.) не будзе пакідаць цябе шчасце і добрыя нагоды.

**(24.08. — 23.09.)** Маеш падтрымку Сонца для тваёй кар’еры, але лёгка не будзе, канкурэнцыю будзе зжыраць зайздрасць. Пераканаеш да сваёй асобы нават ворагаў. Калі нападзе на цябе хандра, спаткайся з нейкай энергічнай, поўнай энтузіязму асобай. Фінансы лепшыя, чым ты спадзяваўся, нават аплата рахункаў не будзе надта балючай. Слухай лекараў, не даказвай, што ты разумнейшы ад іх.

**(24.09. — 23.10.)** Твае справы ідуць памаленьку ўперад. Даб’ешся ўсяго, што хочаш. 11-12.06. можаш наладзіць гарачыя адносіны. Добры настрой, хаця здарацца спрэчкі з сябрамі і раднёй за дробязі. Добры час на падарожжы, курсы, здаванне экзаменаў, што ўзмоцніць тваю пазіцыю. Новыя ўмеласці дадуць табе апярэдзіць канкурэнцыю. Можаш нават сам будзеш абучаць іншых. Шалі «на сваім» могуць выйграць конкурс, апярэдзіць іншых. Але старайся не выдаваць грошай.

**(24.10. — 22.11.)** Мілыя сустрэчы. Адкрыеш у сабе новыя здольнасці, зрэалізуеш свае намеры. Але пры каханай асобе тэмперуй свой характар. 11-12.06. паявіцца шанц для самотных, знаёмства можа здацца несур’ёзным, але можа змяніцца ў стабільную сувязь. Добры час сесці на дыету, змяніць стыль жыцця.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш цікаўны, кемлівы, рухавы. 12-14.06. натрапіш на тых, хто табе ахвотна паможа (увесь тыдзень усе будуць табе спрыяць); цяпер удала аформіш усе незавершаныя справы ва ўстановах. 13-15.06. сур’ёзна прымі асцярогі, якія атрымаеш. Разумныя рашэнні добра запрацэнтуюць. З 16.06. (да 20.06.) на працы паявяцца шанцы на змену (могуць цябе павысіць або даць лепшы занятак).

**(23.12. — 20.01.)** Каб здабыць штосьці, прыйдзецца пастарацца. Але знайдзі час на рэгенерацыю цела і духа. 13-17.06. будзеш мець ахвоту пачаць штосьці новае. Для народжаных у трэцяй дэкадзе гэта будзе новая праца. Хаця 13-17.06. прыйдзецца стаць перад нейкімі абмежаваннямі.

**(21.01. — 19.02.)** Настрой някепскі, ахвота падарожнічаць. Падтрымка ў інтарэсах і ў выбарах ды ўдачы ў бізнесе. Магчымая праца за мяжой, таксама анлайн. Усё ж 13-17.06. можа табе прыйдзецца вывесіць белы сцяг. Але задума ад 16.06. (да 20.06) можа прынесці табе фартуну.

**(20.02. — 21.03.)** 11-12.06. можа паявіцца асоба, якая будзе цябе прывабліваць, не адкідвай гэтага цудоўнага чалавека. 12-14.06. удалыя старанні і размовы пра працу. 13-17.06. пазбягай канфліктаў, асабліва са старэйшымі ад цябе. Ахвотна зоймешся цяжэйшымі практычнымі хатнімі справамі. Асоба, з якой пазнаёмішся 13-15.06., можа аказацца несумленнай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У беларускую Гародню на пяць дзён!



**Ганна ШАРЭНДА** – выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, магістр педагагічных навук. Нарадзілася на Палессі (былое Турава-Пінскае княства). Турыстычная фірма „Мерцана” ўзнікла ў 2010 годзе. І на той момант была гэта адзіная фірма ў Гародні, якая займалася толькі ўнутраным турызмам. „Беларусь. Еўропа, якую Вы не бачылі” — такі слоган мае фірма і стараецца сваёй дзейнасцю яму адпавядаць. Супрацоўнікі фірмы распрацавалі і праводзяць этнічныя экскурсіі. Цыкл „Беларуская Гародня” знаёміць з гісторыяй нацыянальна-вызваленчага руху ў XIX — пачатку XX стагоддзяў. Існаванне беларускай нацыянальнасці непасрэдным чынам звязана з падзеямі, якія адбываліся ў XIX ст. Кастусь Каліноўскі, Валеры Врублеўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Рыгор Шырма — няпоўны спіс тых людзей, якія зрабілі вялікі ўнёсак у станаўленне беларускай нацыі. Іх дзейнасць была звязана з Гародняй. Ёсць таксама цыклы экскурсій „Габрэйская Гародня”, „Польская Гародня”, „Губернская расейская Гародня” і „Літоўская Гародня”.

«Ніва»: — Сёння складана польскім турыстам апынуцца ў Гародні?

**Ганна Шарэнда:** — Пасля падпісання ўказа № 318 трапіць у Беларусь не праблема. Афармленне дакументаў займае 24 гадзіны, то-бок адны суткі. Людзі, якія хочуць трапіць у Гародню, пішуць на э-мэйл турыстычнай фірмы, дзе дакладна пазначаюць колькасць жадаючых прыехаць і даты, з якога па якое чысло хочуць быць у бязвізавай зоне. Таксама трэба даслаць скан свайго пашпарта: там дзе напісана імя і прозвішча, грамадзянства краіны, пазначыць сваю нацыянальнасць, пол. Усё астатняе афармляе фірма.

— Які кошт пропуску?

Афармленне поўнага пакета дакументаў на аднаго чалавека каштуе 12 еўра ці 50 злотых. Але калі ў будучым гэта пастаянны кліент, зразумела, сістэма знiжак існуе.

— Вялікія групы таксама могуць разлічваць на нейкія акцыі?

— Абавязкова, можна дамовіцца. Беларускі бок зацікаўлены ў турыстах, а і турысты хочуць паглядзець Гародню і яго ваколіцы, таму заўсёды можна атрымаць зніжкі. Асабліва праз нашу фірму (*смех*).

— Асоба даслала на Вашу пошту ўсе патрэбныя даныя і што далей?

— Са свайго боку мы высылаем на э-мэйл заказчыка дакумент на права наведвання бязвізавай зоны (на ім размяшчаецца спецыяльны уб-код), які дазваляе яму наведаць горад Гродна і бязвізавую зону да пяці сутак.

— Апрача пропуску дапамагаеце з пасяленнем?

— Мы можам прапанаваць любыя варыянты: эканамічны, сярэдні і даражэйшы. На жаль, у нас вялікая разбежка ў коштах гатэляў. У нас няма гатэляў, якія адпавядалі б кошту і якасці.

— На Вашым сайце можна знайсці інфармацыю наконт экскурсій, якія праводзіце. З аднаго боку бязвізавая зона накідае нейкія абмежаванні, з другога маеце багатую турыстычную прапанову.

— Канешне. У бязвізавую зону ўваходзіць сам горад Гродна і пяць сельскіх саветаў Гродзенскага раёна: Сапоцкінскі, Гожскі, Падлабенскі, Капцёўскі і Адэльскі. Чаму вызначылі гэтыя сельскія саветы? Магчыма таму, што там суаднесенасць у нацыянальным пытанні, скажам, той жа Сапоцкінскі раён у вялікай ступені населены палякамі.

Каб пазнаёміць больш-менш з самой Гародняй, патрэбны суткі, і гэта толькі на адзін горад.

Аўгустоўскі канал — тут ёсць пэўныя пытанні з размяшчэннем, харчаваннем... але там таксама цікава і ёсць што паглядзець. Па дарозе да канала знаходзіцца Гродзенская крэпасць, пра якую нават мясцовыя жыхары мала што ведаюць.

У нас ёсць вельмі шмат і тэматычных, і краязнаўчых, і літаратуразнаўчых экскурсій. Калі людзей цікавіць жыццё і творчасць Элізы Ажэшкі, можна з гэтым пазнаёміцца і ў Гародні. На жаль, Мількаўшчына пакуль не ўваходзіць у бязвізавую зону. Багатырэвічы, Міневічы таксама не ўваходзяць, але зараз гэтае пытанне разглядаецца. Я думаю, што ў хуткім часе яно будзе вырашана і ў людзей будзе магчымасць без візы туды трапіць.

— Затое прапануеце экскурсію па Гародні яе частага наведвальніка — Стэфана Баторыя.

— Так (*смех*). Стэфан Баторый моцна любіў Гародню і па сутнасці зрабіў яе другой сталіцай Рэчы Паспалітай. Паколькі шлюб быў палітычны, то ёсць меркаванне, што сэрца караля і вялікага князя належала простай дачцэ лесніка, якая жыла ў горадзе. У сваім завяшчанні Стэфан Баторый прасіў, каб яго пахавалі ў Гародні, але яго воля была парушана. І паколькі анатамічнае ўскрыццё цела караля і вялікага князя было ў Гародні, ёсць гарадская легенда, што прывід Баторыя можна сустрэць на былым Рынку, сучаснай Савецкай плошчы.

— Андрэй Вашкевіч, гісторык, а таксама і беларускамоўны экскурсавод, зазначыў, што яму не давялося яшчэ праводзіць беларускамоўнай экскурсіі турыстам з Польшчы. У Цябе падобны вопыт?

— Так, такі сам. На жаль, на беларускай мове турысты з польскага боку экскурсіі не заказваюць. Так, гэта здзіўляе. Ну, ёсць яшчэ такое пытанне, што калі толькі адкрылася бязвізавая зона, многія паехалі глядзець не Гродна, а да сваіх сваякоў, бо гэта была праблема, калі патрэбна было адкрываць візу. Наогул, калі прыязджаюць літоўцы — іх цікавіць літоўская Гародня і пакупкі, палякаў — польская, і ўзнікае пытанне, а дзе ж беларуская Гародня?

— Усё-такі заўважаецца больш наведвальнікаў. Паводле даных на працягу першых двух месяцаў Беларусь наведала 2 тысячы турыстаў.

— Турыстаў у горадзе стала сапраўды больш. Так, цікаўнасць расце: асабліва з боку літоўцаў. Большасць палякаў, якія едуць на Беларусь, выбіраюць маршрут на тыдзень і яны едуць па візе. Яны хочуць наведаць мясціны Адама Міцкевіча, яны хочуць трапіць у Пінск, паглядзець больш Брэстчыны, наведаць Ліду, таму яны едуць па візе. Беларусь зацікаўленая, каб грошы заставаліся ў нашай краіне. Сектар турызму заўсёды з'яўляўся прыбытковым. Думаю, што прадстаўнікі афіцыйнай улады ў хуткім часе зробяць, каб гродзенскі аэрапорт і чыгуначны вакзал увайшлі ў бязвізавую зону.

— Губернатар Гродзенскай вобласці Уладзімір Краўцоў сказаў, што хочуць пашырыць бязвізавую зону і стварыць новы памежны пераход Сафіева — Ліпшчаны.

— Ну калі сказалі, то так і зробяць (*смех*).

— Турысты могуць палюбіць Гародню так як Ты, паляшучка?

— Могуць. У кожнага чалавека свая Гародня.

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**






ISSN 0546-1960 24